Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**Д.М. Лебядзевіч**

# РЫТОРЫКА
# АД АНТЫЧНАСЦІ ДА СЯРЭДНЯВЕЧЧА

*слоўнік-даведнік тэрмінаў, назваў і персаналій*

Гродна
«ЮрСаПрынт»
2017

УДК 82.085(075.8)
ББК 80.7
Л 33

Р э ц э н з е н т ы:

*Т.М. Тарасава,* доктар філалагічных навук, прафесар;

*Г.У. Васюк,* кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

Рэкамендавана Саветам філалагічнага
факультэта ГрДУ імя Янкі Купалы

Лебядзевіч Д.М.

Л 33 **Рыторыка** ад Антычнасці да Сярэднявечча. Слоўнік-даведнік тэрмінаў, назваў і персаналій/ Д.М. Лебядзевіч. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2017. – 80 с.

ISBN 978-985-90462-23-18

Слоўнік-даведнік уключае неабходныя звесткі і матэрыялы па рыторыцы Старажытнай Грэцыі і Старажытнага Рыма, а таксама Візантыі.

Слоўнік уключае храналагічны агляд-праспект гісторыі рыторыкі Антычнасці і Візантыі, слоўнік тэрмінаў, персаналій і лацінскіх выразаў.

Адрасуецца студэнтам-філолагам ВНУ, школьным настаўнікам, навучэнцам педагагічных каледжаў, ліцэяў і гімназій, якія вывучаюць курс рыторыкі.

**УДК 82.085(075.8)**
**ББК 80.7**

**ISBN 978-985-90462-23-18**

# РЫТОРЫКА
# АД АНТЫЧНАСЦІ ДА СЯРЭДНЯВЕЧЧА

*храналагічны агляд-праспект*

**Рыторыка** (грэч. *rhetorike*, або аратарскае мастацтва) – у старажытным свеце навука аб законах красамоўства, тэорыі і практыцы публічнай прамовы. Станаўленне рыторыкі як навукі адбылося ў Старажытнай Грэцыі, якая лічыцца яе радзімай. Аднак вытокі і традыцыі рыторыкі зараджаюцца ў нетрах ранніх цывілізацый такіх краін Старажытнага Усходу, як Егіпет, Сірыя, Вавілон, Кітай і Індыя. У гэтым вялікім коле сусветнай рыторыкі адно з цэнтральных месц займае антычная рыторыка, якая ўключае ў сябе: ***старажытнагрэчаскую рыторыку*** (дзейнасць сафістаў, рытарычную дзейнасць Платона, творчасць Арыстоцеля, рыторыку эпохі элінізму) і ***старажытнарымскую рыторыку*** (рыторыка рэспубліканскага Рыма, творчасць Цыцэрона, рыторыка часоў Імперыі, рыторыка ранняга хрысціянаства).

Развіццё прамоўніцкага майстэрства ў Старажытнай Грэцыі звязана з росквітам афінскай рабаўладальніцкай дэмакратыі, а таксама грэчаскага ***поліса***. Вядома, што ўсе палітычныя дзеячы Афін былі выдатнымі аратарамі. Палітыку даводзілася выступаць на пасяджэннях савета, у народным сходзе, палкаводцу перад войскам, прыватнай асобе – на сяброўскіх застольных сустрэчах, на святах, на памінках, а таксама ў судзе.

Найбольш пашыранымі відамі прамоў у часы антычнсці былі ***палітычныя*** (дарадчыя). Атрымалі сваё развіццё і ***судовыя*** прамовы, характэрныя для дэмакратычнага грамадства. Трэці від – гэта ***ўрачыстыя*** (эпідэйктычныя) прамовы, прызначаныя для ўхвалення альбо ганьбавання каго-небудзь ці чаго-небудзь.

Вялікую ролю ў развіцці красамоўства ў Старажытнай Грэцыі адыгралі ***законы Салона***, паводле якіх кожны афінянін павінен быў асабіста абараняць у судзе свае інтарэсы. Аднак не кожны мог гэта рабіць, таму і з’явіліся ***лагографы*** – людзі, якія складалі прамовы. Менавіта з лагографа пачынаў сваю рытарычную дзейнасць Дэмасфен.

Сёння можна меркаваць, што нават сам-насам людзі чыталі кнігі, вершы, філасофскія трактаты ўслых, атрым-

ліваючы ад гэтага вялікае задавальненне, таму аратарскае мастацтва доўгі час існавала ў вуснай форме, бо прамовы звычайна не запісваліся. І толькі ***сафісты*** з другой паловы V ст да н.э. пачынаюць запісваць свае прамовы. У гэты час палітычным прамоўцам ***Кораксам*** з Сіракуз быў складзены падручнік па рыторыцы. Яго вучань ***Цісій*** асноўным спосабам выкладання навукі аб красамоўстве лічыў завучванне прамоў судовых аратараў. З яго школы выйшаў сафіст ***Горгій***, які перанёс дасягненні мастацкага красамоўства з Сіцыліі ў Афіны. Горгій вялікую ўвагу надаваў пытанням стылю. Так, для псіхалагічнага ўздзення прамовы ён прымяняў стылістычныя сродкі ўпрыгожвання, вядомыя пад назвай ***гаргіянскія фігуры***. Мела значнасць у Горгія і слова, якое ўздзейнічала на слухача як вялікі валадар, што творыць цуды. На думку Горгія, слова можа і страх нагнаць, і смутак сагнаць і радасць усяліць, і спачуванне выклікаць.

Сучаснікі Горгія, сафісты ***Фрасімах*** і ***Пратагор***, развіваюць і дапаўняюць тэорыю красамоўства, якое атрымала вялікае прызнанне. З гэтага часу рыторыка займае важнае месца сярод абавязковых навук у антычнай адукацыі, а таксама ў жыцці грамадства.

Прамоўцы спаборнічалі ў красамоўстве на галоўнай гарадской плошчы ў Афінах, дзе паслухаць іх збіралася шмат народу. Да нашых дзён не згасла слава антычных рытараў Старажытнай Грэцыі ***Лісія, Ісакрата, Дэмасфена, Сакрата, Платона, Арыстоцеля*** і інш.

Так, ***Лісія*** лічаць выдатным судовым аратарам, хоць і выступаў у судзе ён толькі адзін раз, але быў вельмі таленавітым лагографам, складаў прамовы на заказ. Прамовы Лісія з вуснаў выступоўцаў гучалі пераканаўча і разам з тым натуральна.

Для гэтага лагографу Лісію неабходна было добра ведаць сацыяльнае асяроддзе кліента, акалічнасць судовай справы, тэмперамент і характар, разумовыя здольнасці і асаблівасці мовы заказчыка.

Майстрам эпідэйктычнага красамоўства быў рытар і публіцыст ***Ісакрат***. Ён меў слабы голас, таму вымушаны быў адмовіцца ад публічных выступленняў, але складаў і друкаваў прамовы, якія прызначаліся для чытання, а таксама кіраваў рытарскай школай. Ісакрат стаў сапраўдным

майстрам пісьмовага красамоўства. На яго думку, аратарская проза павінна быць саперніцай паэзіі.

Ён з'яўляецца заснавальнікам жанру ***павучальнай прамовы*** і ***празаічнага энко***мія, які паслужыў узорам для ***панегірыкаў*** у гонар эліністычных правіцеляў і рымскіх імператараў.

Самым вядомым палітычным аратарам у эпоху незалежнасці Грэцыі быў **Дэмасфен**, які дасканала валодаў разнастайнымі прыёмамі аратарскага мастацтва. Асабліва часта ён выкарыстоўваў стылістычныя фігуры, падкрэсліваў значнасць слова жэстамі. Прамовы Дэмасфена вызначаліся сілаю аргументацыі, палкасцю, лаканічнасцю і яснасцю стылю, чысцінёй мовы. Прамовы Дэмасфена выклікалі незабыўнае ўражанне ў слухачоў і чытачоў антычнасці, былі важным прадметам вывучэння для аратараў.

Вялікі ўклад у развіццё публічнай палемікі ўнёс ***Сакрат***, які свядома не выкладаў сваё вучэнне ў пісьмовай форме. На першае месца Сакрат ставіць ***лагічны доказ***. З імем Сакрата звязана і развіццё дыялога – ад спакойнай гутаркі да напружанай палемікі. Высвятленне ісціны ў спрэчцы называлася ***эрыстыкай***. Састаўнымі часткамі сакратаўскай эрыстыкі былі ***іронія*** і ***маеўтыка***.

Іронія пры дапамозе дасціпнай сістэмы пытанняў і адказаў дапамагала філосафу Сакрату загнаць апанента ў лагічны тупік. Маеўтыка спрыяла фарміраванню правільнай думкі. Такім чынам, Сакрат метадам «пытанняадказу» і логікай спрыяў нараджэнню ў гутарцы правільнай думкі так, як бабка-павітуха дапамагае нарадзіцца чалавеку. Сакрат зрабіў пераход у грэчаскай філасофіі ад Космаса да Чалавека. Галоўнымі філасофскімі праблемамі Сакрата становяцца пытанні сэнсу чалавечага быцця, прызначэння чалавека, прыроды ведаў і ісціны.

Перавага Сакрата над сафістамі заключалася ў доказе і абвяржэнні аднаго і таго ж тэзіса, не выключаючы магчымасці знайсці ісціну. І яшчэ яго заслуга ў тым, што ён амаль увесь час жыў у Афінах (сафісты падарожнічалі) і сабраў вакол сябе шмат прыхільнікаў, якія пазней аб'явілі сябе яго вучнямі. Аднак, не маючы статуса школы, гэты асяродак вучняў з'явіўся правобразам шматлікіх ***сакратычных школ***, што ўзніклі пасля таго, як Сакрата пакаралі смерцю.

Такія пастаянныя школы сталі новым і важным этапам ў развіцці агульнаадукацыйных інстытутаў у Старажытнай Грэцыі, дзе сваё далейшае развіццё атрымаў жанр ***сакратычнага дыялога***.

Сінтэз поглядаў сафістаў і Сакрата прывёў у канцы V ст да н.э. да росквіту ў Старажытнай Эладзе рыторкі і філасофіі, найбольш вядомымі прадстаўнікамі якіх з’явіліся ***Платон*** і ***Арыстоцель***.

Уклад ***Платона*** ў тэорыю красамоўства відавочны. Заснаванне Платонам Акадэміі адбылося не на пусным месцы. Платон, як адзін з вучняў Сакрата, заснаваў сваю школу, стаў вялікім майстрам дыялога, а таксама палемікі, характар якой вызначыўся супрацьстаяннем «філосафаў» і «рытараў». Платон, як і яго настаўнік, поўнасцю падтрымліваў педагагагічны падыход Сакрата да праблемы этыкі. Платон указваў на агульнаграмадскае прызначэнне дзейнасці аратара, падкрэсліваў маральную значнасць сутнасці мастацтва слова.

Так, у сваіх філасофскіх дыялогах «***Федр***» і «***Горгій***» Платон выступае супраць рыторыкі сафістаў, паколькі лічыць, што ў аснове аратарскага мастацтва ляжыць пазнанне чалавечай душы, г.зн. псіхалогія і дыялектыка. Па Платону, аратар павінен спазнаць ісціну таго, пра што збіраецца гаварыць. На першы план ён ставіць эмацыйную пераканаўчасць прамовы (уздзеянне на душу) і тэзіс пра тое, што дзейнасць аратара – творчасць. Крытыка тагачаснай рыторыкі прадстаўлена Платонам найперш у дыялогу «Горгій», ідэал сапраўднага красамоўства – у «Федры». Меркаванні Платона пра этыку і тэорыю красамоўства захавалі сваё значэнне да нашых дзён.

Дасягненні грэчаскага аратарскага мастацтва прааналізаваў і тэарэтычна абгрунтаваў вучоны энцыклапедыст антычнасці ***Арыстоцель***, якога сучаснікі называлі «князем філосафаў» альбо «філосафам з філосафаў». Яго вядомыя трактаты ахопліваюць увесь спектр тагачасных навук і мастацтваў. У галіне філалогіі вядомы дзве працы Арыстоцеля ***«Паэтыка»*** і ***«Рыторыка»***, якія несумненна заклалі асновы еўрапейскага разумення літаратурнай творчасці і мастацкай мовы. «Рыторыка» Арыстоцеля была традыцыйным класічным дапаможнікам па сутнасці для ўсіх еўрапейскіх

школ рыторыкі. Вялікае значэнне Арыстоцель надаваў адукацыі і выхаванню. Кнігу «Рыторыка» Арыстоцель напісаў у 335 г. да н.э. з мэтай даць уяўленне аб агульных правілах прамоўніцкага майстэрства, паказаць, чым павінен карыстацца аратар у сваёй прамове. Асноўным правілам для аратара Арыстоцель лічыў уменне правільна выбраць стыль прамовы і правільна яе падубаваць. Паводле Арыстоцеля, ***стыль*** – гэта спосаб пераканальна выразіць думку. У «Рыторыцы» Арыстоцеля ўпершыню прааналізаваны ***задума*** і ***змест прамовы, вобраз аўтара, эмоцыя, кампазіцыя, стыль,*** якія так неабходны для прамовы. Свае разважанні Арыстоцель падмацоўвае спасылкамі на класічных аратараў, гамераўскі эпас, на творчасць вялікіх трагічных паэтаў Элады Эсхіла, Сафокла, Еўрыпіда, а таксама на камедыёграфа Арыстафана. «Рыторыка» Арыстоцеля аказала вялікі ўплыў на далейшае развіццё тэорыі красамоўства. Рытарычная эстэтыка Арыстоцеля – гэта яго мастацкая канцэпцыя, яго дыялектычная логіка. Гэта тэорыя таго, што цяпер называецца класічным стылем.

Арыстоцель сваёй творчасцю закрывае класічны перыяд старажытнагрэчаскай культуры і адкрывае шлях у новы перыяд гісторыі антычнасці, які называецца ***элінізмам***.

Крызіс дэмакратычных полісаў і ўтварэнне эліністычных манархій змяншаюць ролю прамоўніцкага мастацтва, якое з грамадска-палітычнай сферы перакачоўвае ў школу, ператвараецца ў школьныя дэкламацыі. У рыторыцы ***элінізму*** пачынаюць суіснаваць два асноўныя напрамкі – ***азіанізм і атыцызм.***

У эпоху элінізму канчаткова вызначаюцца пяць састаўных частак рыторыкі як неабходныя і ўзаемазвязаныя этапы аратарскай дзейнасці: ***вынаходніцтва, размяшчэнне, моўнае афармленне, запамінанне, выкананне.***

У II ст. да н.э. быў складзены ***канон*** (узор, сукупнасць правіл) ***дзесяці атычных аратараў***, куды ўвайшлі такія вядомыя і ўплывовыя рытары, як ***Антыфонт, Андакід, Лісій, Ісакрат, Ісей, Лікург, Дэмасфен, Гіперыд, Дзінарх, Эсхін***.

Красамоўства ў Старажытным Рыме пачало развівацца пазней, чым у Старажытнай Грэцыі. Рымскае аратарскае мастацтва было звязана ў першую чаргу з надзённымі праблемамі грамадства, з прыватным і дзяржаўным пра-

вам, а таксама з грамадскай і палітычнай барацьбой у рэспубліканскім Рыме, які вырашаў свае дзяржаўныя справы дэбатамі ў народным сходзе, у сенаце і судзе, дзе мог выступіць практычна кожны свабодны грамадзянін.

Першым рымскім аратарам лічыцца ***Апій Клаўдзій Цэк***, які праславіўся сваёй прамоваю супраць пераміp'я рымлян з эпірскім царом ***Пірам***. Таксама вядомы як выдатны аратар – дзяржаўны дзеяч II ст. да н.э. Марк Порцый Катон, да змястоўных прамоў якога ў якасці эпіграфа можна ўзяць яго ж словы, звернутыя да маладога аратара: «Прытрымлівайся сутнасці справы, а словы знойдуцца». Цудоўнымі аратарамі былі ***браты Гракхі, Гай і Тыберый***.

Роля публічнага слова ў Старажытным Рыме асабліва ўзрастае на рубяжы II – I стст. да н.э. у сувязі з абвастрэннем палітычнай барацьбы, якая прывяла да грамадзянскай вайны. Неаднаразова рабіліся спробы ліквідаваць рэспубліку і ўстанавіць дыктатуру, таму ў гэты час знакамітымі палітычнымі выступленнямі праславіліся ***Марк Антоній, Ліцыній Крас, Квінт Гартэнзій***.

Самым вядомым і таленавітым рымскім аратарам з'яўляецца ***Марк Тулій Цыцэрон*** – палітычны дзеяч, пісьменнік, класік антычнага красамоўства. У палітычае жыццё Старажытнага Рыма Цыцэрон увайшоў як «новы чалавек». Вялікі поспех прынеслі яму ўжо першыя прамовы, але вяршыня ўзлёту Цыцэрона – гэта выкрыццё змовы ***Кацiліны*** і чатыры прамовы (Кацілінарыі) супраць яго ў сенаце. Палітычным ідэалам Цыцэрона была рымская рэспубліка, у якой у згодзе павінны жыць усе саслоўі.

У сваіх рытарычных трактатах ***(«Пра аратара», «Брут», «Аратар»)*** Цыцэрон адлюстраваў багаты вопыт антычнай рыторыкі як навукі, якая была першай формай славеснасці ў еўрапейскай культуры, а таксма ўласны практычны вопыт найбуйнейшага рымскага аратара. Для Цыцэрона аратар – найперш мысліцель, а аснова рыторыкі – філасофія. У цэнтры ўвагі класіка рымскага красамоўства знаходзіцца канкрэтны вобраз чалавека-аратара. Цыцэронаў вобраз аратара – гэта найвыйшэйшы ідэал чалавека высокай пары антычнасці з глыбокімі філасофскімі ведамі і багатым практычным вопытам.

Трактаты Цыцэрона ўпершыню падрабязна і шырока прадставілі класічныя раздзелы рыторыкі. Значнымі і каштоўнымі з'яўляюцца практычныя парады аратара Цыцэрона па авалоданні мастацвам рыторыкі. Яго творы склалі фундамент для еўрапейскай рытарычнай адукацыі.

Творчасць Цыцэрона з'яўляецца галоўным аб'ектам захаплення і пераймання для ***Марка Фабія Квінціліяна,*** знакамітага рымскага рытара і адваката. Рытарычная дзейнасць Квінціліяна – гэта своеасаблівы апошні этап развіцця рымскага красамоўства. Ён на першае месца ставіць стылістыку і патрабуе ад аратара майстэрства ў гэтай галіне. Квінціліян захапляецца пачуццём меры і лічыць, што з трох напрамкаў аратарскага мастацтва – ***азіанскага, атычнага, радоскага*** – найлепшым з'яўляецца атычны. Для Квінціліяна рытарычная школа з'яўляецца цэнтрам адукацыйнай сістэмы. Яго працы з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па антычнай рыторыцы і педагогіцы, таму і атрымалі высокую ацэнку як у яго сучаснікаў, так і ў нашчадкаў.

Першая рэакцыя ідэолагаў хрысціянства на рыторыку антычнасці была негатыўнай і адмоўнай, як на культуру, так і на навуку язычнікаў. У эпоху барацьбы хрысціянства з антычным язычніцтвам ствараецца навука аб мастацтве пропаведзі – ***гамілетыка***. Пачынаюць развівацца жанры ***пропаведзі*** і ***духоўнай гутаркі***, якія дасягаюць у IV ст. свайго росквіту ў прапаведніцкай дзейнасці Айцоў царквы.

Хрысціянскае красамоўства да канцы III ст. заставалася адносна простым у дзвюх галоўных формах – ***экзегетычнай пропаведзі-гоміліі і гоміліі маральнай.*** З распаўсюджаннем у IV ст. хрысціянства і ўмацаваннем пазіцый царквы рыторыка пачынае ўдасканальвацца і ўскладняцца. Так, з цягам часу, развіваюцца і ўдакладняюцца тыпы хрысціянскага красамоўства, якія трансфармуюцца ў ***язычніцкія аратарскія жанры***: павучальныя і суцяшальныя прамовы, эпітафіі, панегірыкі багам і героям, урачыстыя прамовы, прысвечаныя вялікім царкоўным святам і інш.

### *Узнікненне рыторыкі і яе месца ў гісторыі антычнай культуры. Рыторыка як мастацтва і тэорыя красамоўства*

Рыторыка ў Старажытнай Грэцыі і Старажытным Рыме. Асноўныя этапы развіцця антычнай рыторыкі: сафісты, Платон, Арыстоцель, рыторыка эпохі элінізму; рыторыка рэспубліканскага Рыма; творчасць Цыцэрона; рыторыка часоў Імперыі; рыторыка перыяду ранняга хрысціянства.

Тры роды красамоўства: урачыстае (эпідэйктычнае); палітычнае; судовае. Вучэнне пра стыль. Тры віды стылю: сярэдні, узвышаны, сухі. Мэты мастацкага красамоўства: пераканаць, прынесці асалоду, усхваляваць. Антычны рытарычны канон і яго этапы: інвенцыя (вынаходніцтва, у Арыстоцеля аргументацыя), дыспазіцыя (размяшчэнне); элакуцыя (моўнае афармленне); мемарыа (запамінанне), акцыа гіпакрызіс (выкананне).

Рытарычныя тропы і фігуры. Тропы слоў: метафара, метанімія, сінекдаха, катахрэза, катахрэзіс, металепсіс і інш. Тропы сказаў: алегорыя, эмфазіс, эпітэтон, перыфразіс, іронія, гіпербала, эпітэт, эвфемізм, літота і інш. Фігуры слова і фігуры думкі. Фігуры слоў: фігуры прыбаўлення (анафара, эпіфара, сімплока, эпаналепсіс, анадыплозіс, градацыя, полісіндэтан); фігуры ўбаўлення (эліпсіс, сілепсіс, асіндэтон, зеўгма, усячэнне); фігуры размяшчэння ці перамяшчэння (інверсія, паралелізм, хіязм). Фігуры думкі: азначэнне, выраз, рытарычнае пытанне, паралепсіс, зваротак, сумненне, удакладненне, ампліфікацыя і інш.

### *Станаўленне рыторыкі як навукі ў Старажытнай Грэцыі. Перыкл і Клеон*

Росквіт красамоўства ў перыяд праўлення Афінамі Перыкла (каля 490–422 гг. да н.э.). Прычыны шырокага пашырэння рыторыкі ў Афінах у эпоху Перыкла. Роля палітычнага жыцця старажытнаафінскага поліса ў станаўленні рыторыкі. Прамова Перыкла ў адказ на патрабаванні спартанскіх паслоў як адна з прычын Пелапанэскай вайны. Судовыя законы Перыкла. Перыкл – прыхільнік дэмакратыі. Адметныя асаблівасці прамоў Перыкла: лагічнасць выкладу думак, яснасць аўтарскай пазіцыі, адсутнасць залішняй

эмацыяльнасці. «Жалобная прамова» як сведчанне надзвычайнай папулярнасці і аратарскага майстэрства Перыкла.

**Клеон** (? – 422 да н.э.) – пачынальнік папулізму ў рыторыцы. Асаблівасці жэстава-мімічных паводзінаў Клеона ў час выступлення на трыбуне. Ацэнка сучаснікамі і нашчадкамі Клеона яго палітычнай дзейнасці.

*Сафісты – першыя настаўнікі красамоўства. Узнікненне рытарычных дапаможнікаў*

Сафістыка V ст. да н.э. як складаная ідэйная з'ява грамадства Старажытнай Грэцыі. Культ слова ў сафістаў. Дыялектыка і рыторыка як найважнейшыя сродкі ў дзейнасці сафістаў. Дыялектыка – мастацтва разважаць, рыторыка – мастацтва гаварыць.

**Пратагор** (480–410 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф, заснавальнік сафістыкі. Роля сафістыкі ў станаўленні рыторыкі. Адкрыццё Кораксам рытарычнай школы і напісанне зборніка гатовых прыкладаў для прамоў. Цісій – вучань Коракса і стваральнік дапаможніка рэкамендацый, звязаных са структурай аратарскай прамовы. **Горгій** (483–375 гг. да н.э.) – палітычны дзеяч, пісьменнік і аратар, вучань Эмпедокла, заснавальнік у Афінах школы красамоўства. Асаблівасці аратарскага майстэрства Горгія. Сутнасць гаргіянскіх фігур. Прамова Горгія «Пахвала Елене» як узор рытарычнага твора і як апалогія ролі і магчымасцей мовы ў прамоўніцкім майстэрстве.

Фрасімах, Продзік, Гіпій. Дзейнасць Коракса і Цісія.

*Рытарычная дзейнасць Лісія. Ісакрат як паслядоўнік Лісія, яго ўклад у развіццё рыторыкі*

**Лісій** (каля 459–380 гг. да н.э.) – выдатны прадстаўнік старажытнагрэчаскай рытарычнай школы. Сацыяльна-бытавыя абставіны як штуршок да яго рытарычнай дзейнасці. Лісій – лагограф. Юрыдычная дасведчанасць Лісія. Лісій і судовае красамоўства. Адметнасць кампазіцыйнай будовы прамоў, напісаных Лісіем. Галоўная іх вартасць – псіхалагічная дакладнасць іх характарыстыкі і паказ рэальнага жыцця сучаснікаў. Дэмакратычнасць поглядаў Лісія і яго этычны

ідэал грамадзяніна: патрыёт свайго народа і захавальнік народных звычаяў.

**Ісакрат** (436–338 гг. да н.э.) – тэарэтык красамоўства, «бацька красамоўства», аратар, паслядоўнік Лісія, прыхільнік дэмакратыі. Ісакрат – настаўнік рыторыкі, лагограф, публіцыст. Школа красамоўства Ісакрата (заснаваная каля 390 г. да н.э. у Афінах) як прататып агульнаадукацыйнай школы. Красамоўства, паводле Ісакрата, – спосаб выхавання шырокаадукаванай асобы, сродак удасканалення душы і цела вучня. Ісакрат – майстар святочнага, урачыстага красамоўства і стваральнік жанра павучальнай прамовы і празаічнага энкомія, які паслужыў узорам для панегірыкаў у гонар эліністычных правіцеляў і рымскіх імператараў. Стройнасць кампазіцыі, меладычнасць, мяккасць рытму прамоў Ісакрата. Ісакрат як завяршальнік класічнай прозы і папярэднік элінізму.

*Трагізм і веліч жыццёвага шляху Дэмасфена. Рытарычны ідэал Дэмасфена*

**Дэмасфен** (384–322 гг. да н.э.) – палітычны і судовы аратар, прыхільнік дэмакратыі, арганізатар барацьбы супраць македонскага цара Філіпа II. Патрыёт Афінаў. Самаўдасканаленне Дэмасфена як вынік бліскучага аратарскага майстэрства. Адкрытасць, паслядоўнасць поглядаў, грамадзянская адказнасць – найважнейшыя рысы Дэмасфена-аратара. Прамовы супраць македонскага цара Філіпа як найлепшыя узоры практыкі аратарскага мастацтва. Асаблівасці моўнага афармлення прамоў Дэмасфена: меладычнасць перыяду, размяшчэнне лагічна важных слоў у пачатку сінтаксічнай канструкцыі, шырокае выкарыстанне метафары, гіпербалы, іроніі, пералічэнняў, пытальных сказаў. Рытарычны ідэал Дэмасфена: дынамічнасць, лагічнасць, строгасць формы прамовы. Прамовы Дэмасфена – вяршыня атычнага красамоўства. Трагізм і веліч жыццёвага шляху прамоўцы-патрыёта. Значэнне рытарычнай спадчыны Дэмасфена.

### *Рытарычны ідэал Сакрата і Платона. Дыялогі Платона «Федр» і «Горгій»*

**Сакрат** (470–399 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф. Уклад Сакрата у развіццё публічнай палемікі. Сакрат – тэарэтык і практык дыялога як асноўнага сродка вызначэння ісціны. «Метад сакратаўскай гутаркі» (майеўтыка). Роля іроніі і пытанняў у дыялогах Сакрата. Выкарыстанне лагічных довадаў, аналогій, міфалагічных алегорый. Уплыў Сакрата на ўзнікненне сакратычных школ у Старажытнай Грэцыі. Уплыў Сакрата на дзейнасць яго вучняў Ксенафонта, Платона, Антысфена і Арыстыпа.

**Платон** (427–347 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф, родапачынальнік аб'ектыўнага ідэалізму, вучань і паслядоўнік Сакрата. Платон – аўтар дыялога Сакрата з вучнямі, прамовы «Апалогія» (абарона Сакрата). Адметнасць дыялагічнага маўлення Платона: іншасказанне, метафарычнасць, узмоцненая логіка выказвання. Дыялогі Платона «Федр» і «Горгій». Вызначэнне Платонам кампазіцыі прамовы: уступ, выклад і сведчанні, доказы, праўдападобныя вывады.

### *Рытарычнае вучэнне Арыстоцеля. «Рыторыка» Арыстоцеля*

**Арыстоцель** (384–322 да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф, энцыклапедыст, класік філасофіі і рыторыкі. Уклад Арыстоцеля ў развіццё рыторыкі як навукі. «Рыторыка» Арыстоцеля (335 г. да н.э.) і яе мэтавая ўстаноўка – даць уяўленне аб агульных правілах прамоўніцкага майстэрства. Рыторыка, па Арыстоцелю, як неабходнае ўменне абараняць сябе і дапамагчы справядлівасці. 1-я кніга (прадмет рыторыкі, месца рыторыкі сярод іншых навук і мастацтваў, віды прамоў); 2-я кніга (спосабы пераканання: логас, этас, пафас); 3-я кніга (вучэнне аб аратарскай мове, стыль, кампазіцыя пабудовы прамовы, тэхніка мовы). Трактат «Пра аратарскае майстэрства»: парады і рэкамендацыі. Структурныя часткі прамовы паводле Арыстоцеля: 1) прадмова, 2) азначэнне, 3) апавяданне, 4) апісанне, 5) доказы, 6) абвяржэнне, 7) заклік, 8) заключэнне. Рытарычны ідэал Арыстоцеля: насычанасць, сцісласць і яснасць, бадзёрасць і жыццесцвярджальнасць.

*Рыторыка ў эпоху элінізму. Атыцызм і азіанізм – два асноўныя напрамкі рыторыкі эпохі элінізму. «Канон дзесяці атычных прамоўцаў»*

Крызіс дэмакратычных полісаў і ўтварэнне эліністычных манархій (к. IV–III стст. да н.э.). Атыцызм і азіанізм – два асноўныя напрамкі рыторыкі эпохі элінізму. Прычыны іх узнікнення, асноўныя характарыстыкі. Рытарычная дзейнасць **Дэметрыя Фалерскага** (350–283 гг. да н.э.). Дэметрый як прадстаўнік школы перыпатэтыкаў, вучань Феафраста. Рытмізацыя і метафарызацыя мовы ў рытарычнай практыцы **Гегесія** (III ст. да н.э.). Рытарычная дзейнасць **Гермагора** (каля сяр. II ст. да н.э.). Тэорыя знаходжання «сістэмы статусаў» Гермагора як найвышэйшае дасягненне рытарычнай тэорыі эпохі элінізму. «Канон дзесяці атычных прамоўцаў» і матывы, па якіх былі ўключаны ***Антыфонт, Андакід, Лісій, Ісакрат, Ісей, Лікург, Дэмасфен, Гіперыд, Дынарх, Эсхін***. Значэнне трактата Псеўда-Лонгіна «Аб узвышаным».

*Рыторыка ў Старажытным Рыме. Прамовы Марка Тулія Цыцэрона – вяршыня рытарычнага майстэрства. Трактаты Цыцэрона па тэорыі рытарычнага майстэрства*

Асаблівасці рыторыкі Старажытнага Рыма. Генезіс жанраў рымскага красамоўства. Судовае і палітычнае красамоўства. Росквіт палітычнага красамоўства. Аратары апошняга «века» Рэспублікі: Антоній, Крас, Гартэнзій, Цыцэрон. **Марк Тулій Цыцэрон** (106–43 гг. да н.э.) – выдатны прадстаўнік старажытнарымскай рыторыкі, тэарэтык красамоўства, прыхільнік дэмакратыі. Жыццёвы і творчы шлях Цыцэрона. Трактаты «Пра аратара», «Брут», «Аратар» (помнікі антычнага гуманізму) як важкі ўклад у развіццё аратарскага мастацтва Старажытнага Рыма. Этапы падрыхтоўкі да прамовы і яе структура паводле Цыцэрона. Патрабаванні Цыцэрона да знешняга выгляду і жэставамімічных паводзінаў аратара. Рытарычны ідэал Цыцэрона: прыглушанасць страсцей, ігнараванне брыдкага, агіднага і ўслаўленне прыгажосці, рытмічная плаўнасць маўлення.

*Постцыцэронаўскі перыяд рымскага красамоўства. Марк Фабій Квінціліян і яго «Дванаццаць кніг рытарычных настаўленняў». Рытарычная дзейнасць Сенэкі Старэйшага і Сенэкі Малодшага*

**Квінціліян Марк Фабій** (35 – каля 100 гг.) – знакаміты рымскі аратар, тэарэтык літаратурнага класіцызму. Аўтар «Рытарычных настаўленняў» у 12-ці кнігах: кампедыум сістэмнага выкладу тэарэтычных асноў і практычнага вопыту ў галіне красамоўства.

**Сенэка** (4 г. да н.э. – 65 г. н.э.) як грамадскі дзеяч, філосаф-стоік, рытар, аўтар маральна-філасофскіх трактатаў, паэт і драматург.

Уклад у распрацоўку тэорыі красамоўства рымскага гісторыка і палітычнага дзеяча **Публія Карнелія Тацыта** (каля 55–120 гг.). Тацыт як аратар.

**Другая сафістыка.** Распрацоўка класічнай рытарычнай спадчыны, удасканаленне і апрацоўка рытарычнай тэхнікі. Лукіян з Самасаты, Элій Арысцід, Дзіон Хрысастом, Лібаній.

*Хрысціянская рыторыка як працяг і развіццё антычных традыцый у Візантыі і сярэднявечнай Еўропе*

Першыя хрысціянскія абшчыны. Роля пропаведзяў, прытчаў, духоўных гімнаў, палемічных філасофскіх прамоў, хвалебных слоў у культуры хрысціянства.

Два асноўныя напрамкі духоўнага красамоўства ў Візантыі: дыдактычнае (з мэтай маральнага настаўлення) і панегерычнае ці ўрачыстае (прымеркаванае да знамянальных дат царкоўнай гісторыі і падзей дзяржаўнай значнасці).

Рытарычная проза **Васілія (Вялікага) Кесарыйскага** (329–390 гг.). Яго павучальныя апавяданні. Прадстаўнік хрысціянскай рыторыкі **Грыгорый (Багаслоў) Назіанзін** (329–390 гг.). Псіхалагізм, лірызм і напеўнасць рытарычных твораў Багаслова. Казанні **Іаана Златавуста** (344–407 гг.) як узор выкрывання няправеднага багацця і абароны чалавечай годнасці. **Іеранім** (каля 342–420) як прадстаўнік Айцоў заходняй царквы, перакладчык Бібліі з грэчаскай і яўрэйскай мовы на латынь. «Вульгата» Іераніма як кананічны тэкст рымска-каталіцкай царквы. Вучэнне **Аўгусціна Блажэннага** (354–430 гг.) і яго «Споведзь», барацьба з данатыстамі. **Баэцый** (480–524 гг.) і яго «Суцяшэнне філасофіяй». Стварэнне сістэмы «сямі свабодных мастацтваў», у тым ліку і рыторыкі.

# СЛОЎНІК ТЭРМІНАЎ І НАЗВАЎ

**Абструкцыя** (лац. *obstructio* – перашкода) – від пратэсту. Імкненне сарваць выступленне аратара шумам, апладысментамі, іншымі працяглымі выступленнямі не па тэме.

**Авацыя** (лац. *ovatio* – радасць, весялосць) – бурныя працяглыя апладысменты, якія суправаджаюцца радаснымі воклічамі з выпадку адабрэння чаго-небудзь або прывітання каго-небудзь.

**Агітацыйная прамова** (агітацыя, лац. *agitatio* – узрушэнне) – вуснае або пісьмовае выказванне, адрасаванае людзям з мэтай пераканаць іх у правільнасці пэўных палітычных ідэй; сродак перакanання ў чым-небудзь.

**Агностык** (грэч. *agnostos* – неспазнаны, невядомы) – прыхільнік агнастызму, г.зн. тэорыі, адпаведна якой чалавек не мог спазнаць ісціну.

**Акадэмія** – афінская філасофская школа, заснаваная ў 387 г. да н.э. Платонам у гаі мясцовага героя Акадэма. Акадэмія не насіла рэлігійны характар і была месцам для нефармальнага згуртавання вучняў вакол настаўнікаў. У акадэміі навучанне вялося ў форме гутаркі, праводзіліся дыспуты і чыталіся даклады.

Вывучалася этыка, паэтыка, філасофія, тэалогія, натурфіласофія. Асаблівае месца ў выкладанні займала матэматыка. Курсы логікі і рыторыкі чытаў Арыстоцель.

**Аксюмаран** (грэч. *oksymoron* – дасціпна-бязглуздае) – стылістычны прыём наўмыснага спалучэння семантычна процілеглых слоў, у выніку чаго ўзнікае новы сэнсавы змест.

**Акцыа гіпакрызіс** (лац. *actio hypocrisis* – вымаўленне; лац. *pronuntiatio*) – назва пятага раздзела класічнай рыторыкі; публічнае выкананне прамовы з выкарыстаннем жэстаў, мімікі, галасавых магчымасцяў аратара.

**Александрыйская паэзія** – творчасць старажытнагрэчаскіх паэтаў першай паловы III ст. да н.э. (Калімаха, Феакрыта, Апалонія Радоскага і інш.), звязаных са знакамітай Александрыйскай бібліятэкай. Некаторыя «вучоныя паэты» ўзначальвалі Александрыйскую бібліятэку ці займаліся ў

ёй філалагічнымі штудзіямі. Творчасць александрыйскіх паэтаў вызначаецца зменай літаратурных акцэнтаў (ад грамадзянскай праблематыкі да тэм прыватнага жыцця, сямейных праблем), фарміраванне новых, пераважна малых форм (элегія, ідылія, эпіграма, мім і інш.), багатым выкарыстаннем міфалагічных матэрыялаў (асабліва малавядомыя міфы), геаграфічных і этнаграфічных звестак, а таксама эксперыментамі з традыцыйнымі паэтычнымі памерамі. У кола александрыйскай паэзіі ўключаюць таксама паэтаў, якія жылі за межамі Александрыі, але наследавалі вышэйзгаданыя тэндэнцыі.

**Алюзія** (лац. *allusio* – жарт, намёк) – стылістычны прыём, намёк (часта жартоўны) на агульнавядомы палітычны, гістарычны або літаратурны факт.

**Анадыплозіс** (грэч. *anadiplosis* – падваенне) – стылістычная фігура, якая ўяўляе сабой паўтарэнне заключнай часткі вершаванага радка ў пачатку наступнага радка.

**Аналіз рытарычны** (грэч. *analysis* – раскладанне) – від філалагічнага аналізу тэксту прамовы; сродак самакантролю, рэдагавання.

**Аналы** (лац. *annales* – пагадовыя запісы) – запісы гістарычных падзей у храналагічным парадку ў Старажытным Рыме і Сярэднявечнай Еўропе.

**Анафара** (грэч. *anaphora* – аднясенне да чаго-небудзь, прыпісванне) – стылістычны прыём, звязаны з паўтарэннем гукаў, слоў ці выразаў у пачатку вершаваных радкоў або суседніх строфаў.

**Антытэза** (грэч. *antithesis* – супрацьпастаўленне) – стылістычная фігура, заснаваная на супастаўленні процілеглых з'яў і паняццяў, якое звычайна перадаецца пры дапамозе антанімічных пар слоў або ўстойлівых выразаў.

**Антычная адукацыя** – сістэма навучання і выхавання, якая склалася ў старажытным свеце. Складалася з трох ступеней: пачатковая школа і сярэдняя (граматычная) школа – гімнасій; вышэйшая ступень навучання, якую толькі ўмоўна можна назваць школай. Мэтай вышэйшай адукацыі было вывучэнне рыторыкі, якое пачыналася яшчэ на сярэдняй ступені. У Старажытнай Грэцыі звычайна вывучалі філасофію, у Старажытным Рыме штудзіравалі рыторы-

ку. Вышэйшая адукацыя ў антычнасці паглыбляла веды і развівала інтэлект.

**Антычны** (ад лац. *antiquus* – старажытны). Тэрмін адносіцца да гісторыі і культуры старажытных грэкаў і рымлян, які ўвайшоў ва ўжытак у эпоху Сярэднявечча і прымяняўся для абазначэння ўсяго таго, што адносілася да быту і культуры папярэдняга перыяду. Гэта назва засталася за літаратурай і культурай да нашых дзён, хоць з тых часоў былі адкрыты больш старажытныя культуры. Такая назва захавалася як сінонім класічнай старажытнасці, г.зн. таго свету, у лоне якога ўзнікла еўрапейская цывілізацыя як панятце, што аддзяляе грэка-рымскую культуру ад культур Старажытнага Усходу.

Храналагічныя межы антычнай літаратуры і культуры ахопліваюць перыяд ад IX–VIII стст. да н.э. да V ст. н.э. уключна. Старажытныя грэкі засялялі Балканскі паўвостраў, астравы Эгейскага мора, заходняе пабярэжжа Малой Азіі, Сіцылію і паўднёвую частку Апенінскага паўвострава. Рымляне першапачаткова жылі ў Лацыі – вобласці, якая знаходзілася на тэрыторыі Апенінскага паўвострава, аднак у выніку шматлікіх войнаў рымская дзяржава паступова пашыралася, і да канца I ст. да н.э. яна займала не толькі Апенінскі паўвостраў, але і значную частку тэрыторыі Еўропы, уключаючы Грэцыю, частку пярэдняй Азіі, Паўночную Афрыку, Егіпет.

**Аратар** (лац. *orator*) – асоба, якая выступае з прамовай, валодае майстэрствам слова, багаццем моўных сродкаў, умее пераканаць аўдыторыю ў сваіх поглядах.

**Аратарская прамова –** прамова, адрасаваная людзям з мэтай пераканаць іх у чым-небудзь; характарызуецца асаблівым майстэрствам і артыстычнасцю.

**Аратарская проза** – мастацкі жанр, які ўзнік у Старажытнай Грэцыі ў V ст. да н.э., звязаны з развіццём дэмакратыі ў гарадах Сіцыліі і асабліва ў Афінах. У самастойны жанр аратарская проза аформілася ў творчасці сафістаў. У V ст. да н.э. сфарміраваліся тры напрамкі аратарскай прозы: палітычная, судовая, эпідэйктычная.

У Рыме да Цыцэрона аратарская проза амаль невядома, хоць аратары былі (Катон, браты Гракхі Тыберый і Гай і інш.). Сярод рымскіх аратараў класічнай эпохі асабліва выдзяляліся Цэзар і Цыцэрон. З падзеннем Рэспублікі знікае

жывое аратарскае слова. Практычнае красамоўства ператварацца ў рытарычныя практыкаванні.

**Арэапаг** (грэч. *Areios pagos* – узгорак бога вайны Арэса ў Афінах) – вышэйшы судова-палітычны орган у Старажытных Афінах.

**Асіндэтон** (грэч. *asyndeton* – бяззлучнікавасць) – стылістычны прыём, пры якім апускаюцца злучнікі паміж граматычна аднароднымі словамі і сказамі для ўзмацнення выказвання, напрыклад, «прыйшоў, убачыў, перамог». Супрацьлеглая фігура «полісіндэтан».

**Атыцызм** (грэч. *attikismos* – вытанчанасць): 1) вытанчаная і вобразная мова жыхароў Атыкі ў часы росквіту іх культуры; 2) кірунак ў старажытнагрэчаскай літаратуры 1 ст. да н.э., пісьменнікі якога імкнуліся да рэстаўрацыі мовы і стылю класічных пісьменнікаў.

У рыторыцы атыцызм – стылістычны напрамак, арыентаваны на прадстаўнікоў атычнай (афінскай) прозы, у першую чаргу на творчасць Лісія. Атыцызм узнік як рэакцыя на распаўсюджаны ў эліністычных дзяржавах Усходу патэтычны стыль з яго захапленнем да рытарычных фігур і рытмізаванай мовы (т.зв. ***азіанізм***). Адным з галоўных тэарэтыкаў атыцызму быў Дыянісій Галікарнаскі (2-я пал. I ст. да н.э.). Характарыстыку атыцызму і азіанізму дае Цыцэрон у сваім трактаце «Брут» (§ 284 – 291).

**Аэд** (грэч. *aoidos* – спявак) – прафесійны пяснар, які выконваў складзеныя самім эпічныя песні. Аэды выконвалі свае творы пад акампанемент струннага інструмента – ліры ці кіфары. Яркі ўзор сляпога аэда Дэмадока створаны Гамерам у VIII песні «Адысеі». Самога Гамера традыцыя таксама ўяўляла сляпым песняром.

**Біяграфія** (грэч. *bios* – жыццё + *grapho* – пішу) – гісторыя жыцця чалавека; старажытны жанр гістарычнай, мастацкай і навуковай прозы.

**Візантыйская рыторыка.** Візантыя – першая хрысціянская імперыя, якая адкрыла эру еўрапейскага Сярэднявечча. Самая старажытная даўгавечная сярэднявечная дзяржава Візантыя на працягу многіх стагоддзяў з'яўлялася самай магутнай імперыяй хрысціянскага свету, ачагом шматграннай выдатнай цывілізацыі. Візантыйскую цывілізацыю стваралі ўсе народы, якія жылі на яе тэрыторыі, але гэта была пе-

раважна грэкамоўная літаратура і культура, якая на аснове старажытных літаратур Міжземнамор’я сфарміравала свой самабытны воблік і адыграла ў гісторыі важную ролю духоўнага мастка і жывога пасрэдніка паміж культурамі старажытнасці і Новага часу, дала новую поглядавую сістэму і своеасаблівыя формы мастацкага мыслення, што многія стагоддзі падпітвалі еўрапейскую культуру.

Візантыйская літаратура і культура ў выніку своеасаблівых гістарычных умоў аказалася ў эпоху Сярэднявечча адзінай спадкаемніцай, захавальніцай і прадаўжальніцай традыцый грэчаскай антычнасці. Відаць таму, Візантыя, як адзіная дзяржава з магутнай цэнтралізаванай уладаю, адчувала сябе цэнтрам свету, які непасрэдна ўспрыняў тысячагадовую антычную традыцыю.

Арыентацыя на антычную традыцыю выявілася ў імкненні запазычыць і захаваць асноўныя літаратурныя жанры папярэдняй эпохі, пра што сведчаць грэкамоўныя творы, якія ствараліся і бытавалі як на тэрыторыі візантыйскай імперыі, так і па-за яе межамі, на страчаных Візантыяй землях. Але візантыйская літаратура, у адрозненне ад антычнай, была прасякнута хрысціянскім светаўспрыманнем, таму не толькі пераасэнсоўваліся старыя традыцыйныя жанры, але і з’яўляліся новыя. Выкарыстанне традыцыйных форм, прыёмаў і метадаў жанравай і славеснай выразнасці язычніцкай літаратуры і паступовы разрыў з ёй асабліва выразна прасочваецца ў хрысціянскай паэзіі 4-6 стст., што менавіта і раздзяляе візантыйскую літаратуру гэтых часоў на традыцыйную і новую.

Цяжка пераацаніць ролю рыторыкі ў грамадска-палітычным жыцці ранняй Візантыі, у станаўленні візантыйскай культуры і літаратуры. Справядліва лічаць, што рыторыка аказала вялікі ўплыў не толькі на фарміраванне многіх літаратурных жанраў, але і на своеасаблівасць стылю візантыйскай літаратуры. Традыцыя антычнага аратарскага мастацтва ў грамадзянскім і грамадска-палітычным жыцці візантыйцаў доўжылася да сярэдзіны VI – пачатку VII стст. Антычная рыторыка з цягам часу трансфармавалася ў арыгінальнае і ўнутранае цэласнае візантыйскае, што ў многім спрыяла станаўленню хрысціянскай рыторыкі. Пачатак практычнага фарміравання візантыйскай рыторыкі

адносіцца да VI ст. Ля вытокаў красамоўства стаяць такія знакамітыя рытары і сафісты, як Лібаній (Ліваній), Гімерый, імператар Юліян, Фемістый, Сінэсій – язычнікі ці напаўязычнікі па сваіх поглядах, культуры і традыцыях, а таксам плеяда новых хрысціянскіх аратараў і прапаведнікаў – заснавальнікаў асноўных форм хрысцінянскага красамоўства: Васілій Вялікі, Іаан Златавуст, Грыгорый Нізіанзін і Грыгорый Ніскі. Усіх іх аб'ядноўвае не толькі адна эпоха, але і пачатковая язычніцкая школа рыторыкі – афінская, александрыйская, антыохійская, да якіх пазней далучыліся канстанцінопальскія, кесарыйскія, бейруцкаі, газскія – новыя цэнтры хрысціяскай рыторыкі.

**Гамілетыка** (грэч. *homiletikos* – уменне гаварыць з людзьмі) – раздзел багаслоўя, у якім разглядаюцца тэарэтычныя і практычныя пытанні царкоўных пропаведзяў.

**Гаргіянскія фігуры** – сродкі выразнага маўлення, аўтарам якіх лічаць старажытнагрэчаскага аратара Горгія. Да гаргіянскіх фігур адносяцца: 1) антытэза – спалучэнне членаў фразы, якія маюць супрацьлеглыя значэнні; 2) раўначленнасць–суразмернасць сінтаксічных членаў сказа; 3) сугучнасць канчаткаў.

**Гармонія маўленчай падзеі** (грэч. *harmonia* – сувязь, сугучнасць, зладжанасць) – найважнейшы прынцып рыторыкі, які патрабуе цеснага адзінства паміж умовамі, абставінамі моўных зносінаў, іх удзельнікамі і самога жывога маўлення.

**Геданістычны тып маўлення** (грэч. hedomai – радуюся) – такі тып, ад якога атрымліваюць задавальненне ў працэсе моўных зносінаў як прамоўцы, так і слухачы.

**Гімнасій** (грэч. *gymnasion* – месца для гімнастычных заняткаў, ад *gymnos* – голы). Гімнасіем у Старажытнай Грэцыі называлі навучальна-выхаваўчую ўстанову для знатных юнакоў 16-18 гадоў, якія вывучалі палітыку, філасофію, літаратуру і адначасова займаліся гімнастыкай.

**Гіпербала** (грэч. *hyperbole* – перабольшанне) – мастацкі прыём, з дапамогай якога наўмысна перабольшваецца значэнне, уласцівасць, памер, якасць прадмета або з'явы з мэтай узмацнення выразнасці выказвання).

**Гіпербатан** (грэч. *hyperbaton* – перастаноўка) – стылістычная фігура, у якой парушана ўсталяваная сінтаксічная

паслядоўнасць слоў і адаленне іх адзін ад другога пэўнымі ўстаўнымі словамі.

**Гласарый** (лац. *glossarium*)– збор глос, якія падаваліся падрад па ходу тэкста ці маглі адвольна размяшчацца па алфавіту.

**Глоса** (лац. *glossa* – мова, слова) – пераклад, альбо тлумачэнне слова ці выразу. Глосы пісаліся непасрэдна ў тэксце над радком ці на палях. Глосы з'явіліся пры даследаванні і вывучэнні паэм Гамера.

**Гнома** (грэч. *gnome* – выраз, думка). Сентэнцыя, мэта якой даць кароткае і трапнае павучанне. Гномы сустракаюцца ўжо ў Гамера. Пазней гномы пачалі пісаць элегічным дыстыхам. Вядомым паэтам выяслоўя гэтага тыпу быў Факілід (VI ст. да н.э.).

**Данатысты** (лац. *donatista*, ад Donatus – імя карфагенскага епіскапа) – удзельнікі рэлігійнага руху ў Паўночнай Афрыцы 4-5 стст., накіраванага супраць афіцыйнай хрысціянскай царквы і рымскага панавання.

**Дыспазіцыя** (лац. *dispositio* – размяшчэнне) – другі асноўны раздзел класічнай рыторыкі, у якім разглядаюцца прынцыпы, правілы размяшчэння матэрыялаў у прамовах рознага тыпу: разважанні, апісанні, апавяданні.

**Дыялог** (грэч. *dialogos* – размова) **–** літаратурны жанр, што аформіўся ў філасофскіх творах Платона. Сваё далейшае развіццё дыялог атрымаў у творах Арыстоцеля, Плутарха і Лукіяна. У Рыме дыялог служыў для пісьмовай перадачы ведаў у разнастайных сферах. У жанры дыялога пісаў свае творы Цыцэрон.

**Дыятрыба** (грэч. *diatribe* – правядзенне часу, заняткі чым-небудзь) – рытарычная форма маральна-дыдактычнага зместу, створаная філосафамі-кінікамі. Уяўляла сабой дыялог з уяўным суразмоўцам, выкарыстоўваючы пытанні, адказы, рэплікі. У якасці пераканаўчых аргументаў ужываліся прымаўкі, анекдатычныя прыклады з бытавога жыцця, цытаты вядомых аўтараў і інш. Прыёмы дыятрыбы выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці Гарацый, Сенэка, Ювенал і інш. Да дыятрыбы ўзыходзяць раннія хрысціянскія пропаведзі.

**Інвектыва** (лац. *invectiva* (oratio) – лаянкавая прамова) – рэзкае выступленне з лаянкай і абразай у чый-небудзь адрас.

**Інвенцыя** (лац. *inventio* – вынаходніцтва) – першы з асноўных раздзелаў класічнай рыторыкі, у якім вызначаюцца правілы выбару тэмы, яе раскрыцця, збору і падрыхтоўкі матэрыялу для выступлення, г.зн. працы аўтара над раскрыццём ідэі і зместам сваёй прамовы.

**Какафонія** (грэч. *kakophonia* – дрэннае гучанне) – гучанне непрыемнае для слыху. Парой можа выкарыстоўвацца для выпраўлення памылак у мове аратара з улікам недахопаў, выяўленых у прыкладах какафоніі, па прынцыпе: «Так рабіць нельга!».

**Канон рытарычны** (грэч. *kanon* – норма, правіла) – цэнтральны раздзел агульнай рыторыкі, у якім разглядаюцца законы і правілы пабудовы аратарскай публічнай прамовы, паказваюцца асноўныя этапы на шляху ад думкі да слова: вынаходніцтва зместу, размяшчэнне вынайдзенага ў пэўным парадку, моўнае афармленне.

**Катахрэза** (грэч. *katachresis* – злоўжыванне) – стылістычны прыём спалучэння супярэчлівых, лагічна несумяшчальных паняццяў, напрыклад, чорнае золата, чырвонае чарніла.

**Квадрывіум** (лац. *quadrivium* – перасячэнне чатырох дарог) – павышаны курс адукацыі ў сістэме класічнай вышэйшай школы старажытных часоў, які ішоў услед за трывіумам і ўключаў чатыры прадметы – музыку, арыфметыку, геаметрыю, астраномію.

**Кінікі** (ад грэч. *kynikoi*, ад *kynikos* – сабачы) – старажытнагрэчаская філасофская школа, якая мела пэўныя матэрыялістычныя тэндэнцыі, зняважліва адносілася да ўсіх сацыяльных сувязей, звычаяў і набыткаў культуры. Школа была створана вучнем Сакрата – Антысфенам. Платон называў яго «ўзвар'яваным Сакратам», паколькі многія сакратаўскія ідэі Антысфен давёў да крайнасці форм выражэння. Так, ідэя дабрачыннасці як свабоды духу прывяла Антысфена да адмаўлення залежнасці ад усіх форм сацыяльных установ: дзяржавы, сям'і, школы, дома і інш. Кінікі прапагандавалі строгі аскетызм і набліжэнне да прыроднага, натуральнага існавання. Прырода, праца і пошукі жыццёвай мудрасці ўяўляліся ім адзінай і магчымай крыніцай задавальнення. Самы вядомы паслядоўнік Антысфена – гэта Дыяген з Сінопа. Ён вядомы тым, што ажыццявіў на практы-

цы філасофскія погляды Антысфена і вёў строгі аскетычны лад жыцця. Аднак нягледзячы на ўсё гэта, Дыяген выклікаў прыязнасць у сваім атачэнні. Пра гэта сведчаць шматлікія легенды вакол яго імя, напрыклад, сустрэча Дыягена з Аляксандрам Македонскім і яго адзіная просьба да цара («не засланяць сонца»). Дыяген быў пахаваны ў Карынфе з вялікай пашанай, што, безумоўна, сведчыць пра вялікую павагу да яго грамадзян. Важнае значэнне кінізма заключаецца ў тым, што многія яго ідэі леглі ў аснову Стоі.

**Класічны** (лац. *classicus* – першакласны, узорны) – тэрмін, які адносіцца да свету старажытных грэкаў і рымлян, антычны.

**Клаўзула** (лац. *clausula* – заключэнне) – у рыторыцы гэта заключная частка прамовы, гукавой ці стылістычнай форме якой аратар надае асабліва важнае значэнне, надаючы клаўзуле найбольш эфектыўную форму.

**Космас** (грэч. *kosmos* – парадак; сусвет) – упарадкаваны, арганізаваны вобраз светабудовы, што прыйшоў на змену хаосу.

**Лагографы** (грэч. *logos* – слова, сачыненне + *grapho* – пішу) – у Старажытнай Грэцыі: 1) аўтары першых твораў гістарычнай прозы. Упершыню працы лагографаў з'явіліся ў Іоніі (Малая Азія). Захаваліся невялікія фрагменты розных аўтараў. Лагографы імкнуліся ўзнавіць легендарную гісторыю грэчаскіх гарадоў, «варварскіх краін», генеалогію арыстакратычных сем'яў (роду). У іх працах адлюстроўваліся норавы і звычаі чужаземных народаў, падаваліся этнаграфічныя і геаграфічныя звесткі. Найбольш вядомымі з лагографаў былі Гекатэй з Мілета і Геланік з Мітылены; 2) складальнікі судовых прамоў у Старажытных Афінах ад імя кліентаў з улікам іх сацыяльнага становішча, адукацыі, характару. Прамовы гэтых лагографаў змяшчалі цікавыя звесткі пра сацыяльныя адносіны ў антычным грамадстве. Лагографы цудоўна валодалі прыёмамі аратарскага майстэрства (Лісій, Ісакрат, Дзінарх і інш.).

**Лаканізм** (грэч. *lakonismos* – кароткасць). Старажытная Спарта была цэнтрам вобласці Лаконія, жыхары якой ўмелі сцісла і дакладна фармуляваць свае думкі. У якасці прыклада часта прыводзяць аповед пра спартанку, якая праводзіла мужа ці сына на вайну, падавала шчыт і гаварыла: «З ім ці на

ім». Мелася на ўвазе, што мужчына павінен ці перамагчы, ці загінуць ў барацьбе за Радзіму.

**Лекіф** (грэч. *lekuthos* – гліняны сасуд) – першапачаткова старажытнагрэчаскі гліняны распісны сасуд з вузкім горлам і вертыкальнай ручкай для туалетнага алею. У Старажытным Рыме гэта тэрмін Цыцэрона для абазначэння любых прыёмаў, якія спрыялі ўпрыгожванню прамовы (анафара, рытарычнае пытанне і г.д.).

**Меморыя** (лац. *memoria* – запамінанне) – чацвёрты раздзел класічнай рыторыкі, адзін з этапаў падрыхтоўкі да публічнага выступлення, які ўключае прыёмы запамінання тэксту прамовы.

**Метабасіс** (грэч. *metabasis* – пераход) – сафістычны прыём у спрэчцы, звязаны з адхіленнем ад абмеркавання пытання і падменай яго другім.

**Метафара** (грэч. *metaphora* – перанясенне) – слова або выраз, ужытыя ў пераносным значэнні на аснове знешняга ці унутранага падабенства вобразаў, з'яў, прадметаў. Метафара адрозніваецца ад параўнання тым, што ў ёй прысутнічае адзін член супастаўлення – тое, з чым супастаўляецца і не называецца тое, што супастаўляецца.

**Метэмпсіхоз** (грэч. *metempsychosis* – перасяленне душ) – філасофскае вучэнне пра «кругазварот душ», перасяленне душ памерлых у немаўля ці іншае цела. Вытокі гэтага вучэння ў антычным свеце ўзыходзяць да ідэй піфагарэйцаў.

**Музей** (лац. *museum*, грэч. *museion* – храм муз) – установа ў Александрыі, цэнтр навуковага жыцця. Знакамітыя вучоныя, пісьменнікі, паэты, рытары займаліся даследаваннямі ў самых разнастайных галінах ведаў. У Музеі былі залы для лекцый і для агульнай трапезы, месца для прагулак і абсерваторыя, калекцыя раслін і лабараторыя, у якой праводзілі доследы над жывёламі.

Вакол Музея групаваліся паэты эпохі Элінізму Калімах, Феакрыт, Апалоній Радоскі. І іх творчасць называюць школай Александрыйскай паэзіі. У III ст. н.э. Музей быў разбураны.

**Неатэрыкі** (новыя паэты, паэты-мадэрністы) – рымскія паэты першай паловы І ст. да н.э., якія арыентаваліся на традыцыі «вучонай» александрыйскай паэзіі і распрацоўвалі ў сваёй творчасці малыя жанры (эпілій, эпіграма, элегія і

інш.). Утварылася плеяда маладых лірычных паэтаў: Валерый Катон, Гельвій Цына, Гай Валерый Катул, Ліцыній Кальв, Карнелій Непат і інш. Вялікай заслугай гэтых паэтаў была рэформа, якую яны правялі ў літаратурнай мове, адмовіўшыся ад старога высакамоўнага, напышлівага, рытарычнага, паэтычнага стылю Энія, пакінуўшы яго толькі ў паэмах эпічнага складу і наблізіўшы свой стыль да размоўнай мовы адукаванага грамадства сучаснасці.

**Палітычная прамова** (грэч. *politika* – дзяржаўныя, грамадзянскія справы, ад *polis* – дзяржавы) – важны, часта эфектыўны сродак уздзеяння палітыка ці таго, хто імкнецца ім стаць, на шырокія масы з мэтай заваявання іх сімпатыі, падтрымкі.

**Панегірык** (грэч. *panegyrikos* (logos) – урачыстая прамова) – прамова хвалебнага зместу; гістарычны жанр, які ўзнік у Старажытнай Грэцыі. У наш час можа азначаць празмернае ўсхваленне каго-небудзь ці чаго-небудзь.

**Патрыстыка** (лац. *patristica*, ад лац. *pater* – бацька, айцец) – вучэнне першых хрысціяскіх тэолагаў (айцоў Царквы), якія заклалі асновы царкоўнай дагматыкі, тэалогіі і філасофіі хрысціянства. У патрыстыцы сфарміраваліся такія празаічныя жанры, як палемічная філасофская прамова, багаслоўскі трактат-разважанне, экзегеза, пропаведзь, духоўны гімн, споведзь і інш. Росквіт патрыстыкі звязаны з дзейнасцю Васілія Вялікага, Іаана Златавуста, Аўгусціна, Іаана Дамаскіна, Грыгорыя Назіанзіна і інш.

**Пафас** (грэч. *pathos* – пачуццё, страснасць) – захапленне, уздым, энтузіязм; адна з трох асноў антычнай рыторыкі: **этас** – этычны пачатак, **логас** – слоўны, мысленны пачатак, **пафас** – эмацыянальны пачатак.

**Паэзія – гісторыя –** супастаўляльныя сферы славеснай творчасці, Арыстоцель аддае перавагу паэзіі сцвярджаючы, што «паэзія гаворыць пераважна пра агульнае, гісторыя – пра адзінкавае», і таму «паэзія больш філасофская і важнейшая за гісторыю». Такое меркаванне ў значнай ступені абумоўлена ўзроўнем антычнай гісторыі ў часы Арыстоцеля. Творы антычных гісторыкаў адлюстроўвалі прыватныя гістарычныя факты, у якіх адсутнічалі аналіз і ацэнка гістарычных падзей.

**Паэтыка** (грэч. *poietike* (techne) – паэтычнае майстэрства) – у Старажытнай Грэцыі да Арыстоцеля выказваліся асобныя меркаванні пра сутнасць і функцыі паэзіі, крыніцы творчасці. Мы знаходзім іх у Гамера, Гесіёда, Арыстафана (асабліва ў камедыі «Лягушкі») у Горгія і Платона, з якім Арыстоцель уступіў у палеміку ў сваёй знакамітай працы «Паэтыка», дзе ўпершыню паэтычнае мастацтва, у першую чаргу эпас і трагедыя, атрымалі шматаспектны і сістэматычны аналіз, заснаваны на знаёмстве з вялікай колькасцю твораў.

**Пелапанэская вайна (**431–404 гг. да н.э.) – буйнейшая ў гісторыі Грэцыі за першынство паміж Афінскім і Пелапанэскім саюзамі. Пачаўшыся з канфлікта паміж Афінамі і Спартай, яна ахапіла ўсю Грэцыю, перакінулася ў Сіцылію і закранула Персію. Прычынай гэтай вайны былі палітычныя супярэчлівасці паміж дэмакратычнымі Афінамі і алігархічнай Спарты. Жорсткая вайна, упадак эканомікі, разарэнне сялян і рамеснікаў, абвастрэнне класавай барацьбы ў полісах паскорылі крызіс палiснай сістэмы ў Грэцыі, а пазней заваяванне яе Македоніяй.

**Перыпатэтызм** (грэч. *peripateo* – прагульваюся) – філасофскае вучэнне, заснаванае Арыстоцелем, характэрнае тым, што выкладалася ў час прагулак.

**Перыпатэтыкі** (грэч. *peripatetikoi* – аматары прагулак): 1) паслядоўнікі перыпатэтызму; 2) старажытнагрэчаская філасофская школа, заснаваная Арыстоцелем. Крытая галерэя, у якой Арыстоцель праводзіў заняткі. Пасля Арыстоцеля найбольш яркім філосафам-перыпатэтыкам быў Феафраст.

**Поліс** (грэч. *polis*) – горад-дзяржава як асобная форма сацыяльна-эканамічнай і палітычнай арганізацыі ў Старажытнай Грэцыі. Станаўленне сістэмы полісаў у Грэцыі працягвалася да пачатку эпохі элінізму. Поліс мог мець розную палітычную арганізацыю (дэмакратыя, алігархія, ваенная манархія), аднак уключаў абшчыну ўласнікаў, якія мелі грамадзянскія правы, у адрозненне ад рабоў і варвараў, якія не з′яўляліся грамадзянамі поліса.

**Полісіндэтон** (грэч. *polysyndeton* – многазлучнікавасць) – фігура паэтычнай мовы, якая заключаецца ў паўтарэнні злучнікаў, шматзлучнікавасць.

**Порцік** (лац. *porticus*) – крытая галерэя з калонамі.

**Рапсод** (грэч. *rhapsodos*, ад *rhapto* – складаю + *ode* – песня) – вандроўны пясняр у Старажытнай Грэцыі. Выканаўца эпічных песень, які злучаў іх у адно цэлае. У класічную эпоху рэпертуар рапсодаў састаўлялі паэмы Гамера, якія выконваліся па адпаведнаму тэксту. Калі чытанне праводзілася некалькі дзён (напрыклад, у час Панафіней – свята ў гонар Афіны), то адзін рапсод змяняў другога і яны спаборнічалі ў сваім майстэрстве. Мастацтва рапсодаў лічылася фамільным і зачастую перадавалася ў спадчыну разам з тэкстамі твораў.

**Рытар** (грэч. *rhetor*) – аратар у Старажытнай Грэцыі і ў Старажытным Рыме, а таксама настаўнік красамоўства.

**Рыторыка** (грэч. *rhetorike*) – навука пра аратарскае мастацтва, або красамоўства. Тэарэтычнае абгрунтаванне рыторыкі як навукі традыцыя звязвае з імёнамі сіцылійскіх настаўнікаў красамоўства – Цісія, Коракса і Горгія. У 2-й палове IV ст. да н.э. з’явіўся першы нарматыўны дапаможнік па рыторыцы Анаксімена «Рыторыка да Аляксандра». Дапаможнік захаваўся сярод прац Арыстоцеля. На лацінскай мове першай рыторыкай лічаць невялікі трактат невядомага аўтара «Рэторыка да Герэнія» (пасля 89 г. да н.э.), які ўяўляе падрабязны выклад грэка-рымскай рытарычнай сістэмы.

**Рыторыка да Герэнія** («Rhetorica ad Herennium») – лацінскі трактат невядомага аўтара (пасля 89 г. да н.э.), у якім грунтоўна абагульнены дасягненні грэка-рымскай рытарычнай сістэмы, якая арыентавала на практыку. Гэта самы просты і даступны вучэбны дапаможнік традыцыйнай рыторыкі часоў антычнасці. Аўтарства памылкова прыпісвалася Цыцэрону.

**Рэцытацыя** (лац. *recitatio* – чытанне ўголас) – чытанне або дэкламацыя перад чытачамі тэксту. Першапачаткова, як, напрыклад, у рапсодаў, уяўляла сабой рэчытатыў у суправаджэнні музычнага інструмента. Пазней дэкламацыя магла быць вольная ад музыкі і набліжанага да чытання тэксту, як, напрыклад, пры рэцытацыі рымскай трагедыі Сенэкі.

**Сафізм** (грэч. *sophisma* – выдумка, галаваломка) – вывад, які толькі фармальна здаецца правільным, бо заснаваны на наўмысна няправільным падборы зыходных палажэнняў. Сафізм супярэчыў як нормам логікі, так і нормам этыкі.

**Сафісты** (грэч. *sophistes* – мудрэц, майстар) – назва старажытных грэчаскіх філосафаў. Першапачаткова сафістамі называлі людзей, дасведчаных у якой-небудзь галіне ведаў. З сярэдзіны 5 ст да н.э. сафістамі сталі называць і выкладчыкаў красамоўства. Сафісты былі практыкамі і тэарэтыкамі рыторыкі. Яны не толькі навучалі практычнаму красамоўству, але і складалі па просьбе грамадзян прамовы. Сафісты належалі да школы філосафаў-асветнікаў. Стварылі надзвычайны культ слова. Яны па-майстэрску валодалі ўсімі формамі аратарскай прамовы, законамі логікі, уменнем спрэчкі і моцным уздзеяннем на аўдыторыю. Папулярнасць іх была незвычайная. Яны ездзілі па ўсёй Грэцыі, выступалі перад слухачамі, дапамагалі многім авалодаць красамоўствам. Папулярнымі ў сафістаў былі тэмы Елены – віноўцы Траянскай вайны, Афрадыты, Эрата, Алімпійскія прамовы. Асноўныя тэмы гутарак сафістаў былі сабраны ў зборніку пад назвай «Двайныя прамовы». Гэты зборнік захаваўся да нашых дзён. Некаторыя з іх выконвалі ролю дыпламатаў (Гіпій, Горгій), іншыя займаліся ўнутры дзяржаўнай дзейнасцю (Продзік, Пратагор). Менавіта сафісты заклалі асновы рыторыкі як навукі пра аратарскае мастацтва. На іх думку, мэта аратара не раскрываць ісціну, а пераконваць. У сваёй прамове сафіст павінен паказаць малое вялікім, а вялікае – малым, новае падаць старым, а старое – новым. Сапраўдны аратар, на думку Горгія, павінен быў умець адну і тую ж рэч усхваляць і ганьбаваць. Сафісты шырока выкарыстоўвалі ў сваіх прамовах антытэзу і сугучнасць канчаткаў, звярталі ўвагу на сціслацсць думкі, рытм мовы, вывучалі аратарскую лексіку, а таксама ўздзеянне прамовы на пачуцці. У часы сафістаў рыторыка была «царыцай ўсіх навук».

**Сафістыка другая** – літаратурная плынь, што ўзнікла ў Рымскай імперыі падчас праўлення Антонінаў (96 – 192 гг.). Вядомая сацыяльная стабільнасць гэтых часоў прывяла да асэнсавання таго, што адзін этап жыцця грамадства закончыўся і пачаўся другі. Узнікла настальгія па незваротным мінулым і імкненне адрадзіць яго ў літаратуры. Пазней Флавій Філастрат назаве гэты напрамак «философствующей риторикой», а яе прадстаўнікоў назаве прадаўжальнікамі старажытных сафістаў. Пазней узнікне тэрмін «другая

сафістыка». Аднак паміж старажытнымі сафістамі і рытарамі другой сафістыкі былі істотныя адрозненні: ранніх сафістам уласцівы перш за ўсё пафас пазнання, а для прадстаўніоў другой сафістыкі важней за ўсё узнавіць, скапіраваць ужо набытыя ў класічную эпоху ідэалы, таму і з'яўляюцца значныя і прадуктыўныя набыткі ў навуцы, у тым ліку і ў галіне мовы.

Менавіта ў гэты час састаўляюцца шматлікія слоўнікі атычнага дыялекта, уключаючы лексікон Палідэўка. Прадстаўнікамі другой сафістыкі былі людзі розных нацыянальнасцей і сацыяльнага паходжання. Цэнтрамі другой сафістыкі былі грэчаскія гарады Малой Азіі, дзе захавалася моцная традыцыя азіянізму. Арыентацыя на мінулае сказалася і ў тым, што моваю літаратуры гэтага перыяду быў не койнэ (размоўная мова эпохі), а атычная мова класікі.

Урачыстае красамоўства становіцца галоўным відам другой сафістыкі. У прамовах праслаўляюцца гістарычныя і міфалагічныя героі. Рытары-сафісты ўздзейнічаюць на публіку пры дапамозе спакуслівай стылізацыі класікаў, прыгажосцю голасу, мімікай і песнапеннем. Парой іх выступленні ператварыліся ў канцэрты. У літаратуры на першае месца выходзіць проза, у якой адчуваецца моцны ўплыў рыторыкі.

Другая сафістыка аказала значны ўплыў на грэчаскі раман і эпісталярны жанр. Другая сафістыка перажыла два перыяды свайго ўзлёту. У II ст. – час адраджэння класікі (Дзіон Хрысастом, Элій Арысцід, Герад Атык). У IV ст. – час барацьбы язычніцтва і хрысціянства, у якой прадстаўнікі адной культуры карысталіся адной і той жа моваю рыторыкі.

**Сілагізм** (грэч. *syllogismos* – розума-заключэнне) – дэдуктыўнае лагічнае розумазаключэнне, якое складецца з дзвюх пасылак (большай і меншай) і вывадаў.

**Сілагістыка** (грэч. *syllogistikos* – які робіць вывад) – раздзел фармальнай логікі, які вывучае сілагізмы, а для рыторыкі ў іранічным сэнсе – пустыя, беспрадметныя агульныя абстрактныя разважанні (тое, што і схаластыка).

**Стоікі** (лац. *stoicus*, грэч. *stoikos*) – паслядоўнікі антычнай філасофіі стаіцызму, прадстаўнікі грэка-рымскай філасофскай школы. Назва паходзіць ад слоў Stoa Poikilē (стракаты порцік), месца ў Афінах, дзе збіраліся першыя

стоікі. Заснавальнік школы – Зянон. Для стаіцызму характэрны пантэістычныя ўяўленні, якія выліваюцца ў ідэю аб сусветнай дзяржаве, у якой усе роўныя: рабы і вольныя, грэкі і варвары, багатыя і бедныя. Ідэя пантэізму перапляталася з ідэяй бога-творцы, які ўсё прадвызначае. Дабрачыннасцю чалавека абвяшчалася абыякавасць, спакойнасць перад выпрабаваннямі, якія пасланыя з неба. Ідэі стаіцызму атрымалі шырокае распаўсюджанне ў Рыме (Сенэка, Эпіктэт і Марк Аўрэлій). Гісторыкі хрысціянства спасылаюцца на ролю ідэй стаіцызму ў фарміраванні хрысціянскай этыкі.

**Схаластыка** (грэч. *scholastikos* – школьны) – Сярэднявечная рэлігійна-ідэалістычная «школьная філасофія», якая вызначалася абстрактнымі разважаннямі і фармальнымі лагічнымі мудрагельствамі. Схаласты выкарыстоўвалі ідэі антычнай філасофіі (Платона і асабліва Арыстоцеля, погляды якога дастасоўвалі ў сваіх мэтах).

**Схоліі** (грэч. *scholia*, мн. ад *scholion*) – заўвагі, тлумачэнні да незразумелых месц старажытнага тэксту, складзеныя ў антычнасці ці Сярэднявеччы. Схоліі ўзніклі ў школьнай практыцы V ст. да н.э. як паясненні да твораў Гамера. Пісаліся звычайна на палях тэкстаў.

**Трактат** (лац. *tractatus* – абмеркаванне, разгляд) – навуковая праца, у якой разглядаецца асобнае пытанне ці праблема; разважанне на вызначаную тэму.

**Трыбун** (лац. *tribunus*) – аратар, які абараняў інтарэсы плябеяў у Старажытным Рыме.

**Трывіум** (лац. *trivium* – перасячэнне трох дарог) – тры гуманітарныя навукі – граматыка, рыторыка і дыялектыка, якія былі асноўнымі прадметамі ў класічных універсітэтах старажытнасці.

**Тэма** (грэч. *thema*) – тое, пра што гаворыцца ў тэксце, што з'яўляецца прадметам гутаркі, спрэчкі і г.д.

**Фабула** (лац. *fabula* – апявяданне, гісторыя) – сюжэтная аснова апавядальнага тэксту, пераказ падзей і здарэнняў у іх паслядоўнасці.

**Філіпіка** (грэч. *philipika*, ад Philipp – імя македонскага цара) – серыя выкрывальных гнеўных прамоў Дэмасфена супраць Філіпа II, пазней любая гнеўная прамова, накіраваная супраць вядомай асобы.

**Хіязм** (грэч. *chiasmos* – перакрыжаванне) – від сінтаксічнага паралелізму, пры якім у другой палавіне фразы члены сказа стаяць у адваротным парадку.

**Хрысціянства** – рэлігія, якая першапачаткова ўзнікла ў Палесціне падчас кіравання імператараў Аўгуста (31 г. да н.э. – 14 г. н.э.) і Тыберыя (14–17 гг. н.э.) як адгалінаванне іудаізму, у якім адлюстравалася ідэя іудзейскага спадзявання на месію. Аднак з цягам часу хрысціянства сканцэнтравала ў сабе элементы іншых усходніх рэлігій і культаў, а таксама эліністычнай філасофіі. Заснавальнік і прапаведнік хрысціянства – рэальная гістарычная асоба Ісус з Назарэта. Найбольш падрабязна яго жыццё і веравучэнне выкладзены ў кананічных евангеліях (ад Матфея, Марка, Лукі і Іаана).

Асноўныя дагматы хрысціянскай веры былі выкладзены ў Нікейскім сімвале веры, які быў прыняты I Усяленскім саборам хрысціян, што праходзіў у 325 г. у г. Нікея. Хрысціяне адмовіліся прызнаць афіцыйны культ імператара, таму ў рымскай імперыі іх праследавалі і каралі смерцю. Першыя ганенні адбыліся ў 64 г. у час імператара Нерона. Пералом наступіў у час кіравання імператара Канстаціна, які перад смерцю ў 337 г. прыняў хрысціянства. Важнейшай вехай з'яўляецца 381 г., калі хрысціянства набыло статус дзяржаўнай рэлігіі. З цягам часу жыццё Ісуса стала разглядацца як паварот чалавечай гісторыі, якая адкрыла пачатак новаму летазлічэнню.

**Хрыя** (лац. *hreia*) – схема, у адпаведнасці з якой у класічнай рыторыцы будавалася прамова-разважанне.

**Школа антычная** – сістэма пачатковай і сярэдняй адукацыі ў старажытным свеце, якая мае свае спецыфічныя асаблівасці ў Грэцыі і Рыме. У Грэцыі ў VII–VI стст. да н.э. узніклі так званыя «мусічныя» школы, у якіх асноўнымі прадметамі былі літаратура і музыка (апошняй надавалася вельмі вялікае значэнне). Вывучалася таксама элементарная матэматыка. Пасля заканчэння вучобы маладыя людзі паступалі ў гімназіі. Школы былі прыватнымі.

У эпоху ранняга элінізму адзіная мусічна-гімнастычная школа распалася на пачатковую і сярэднюю. У пачатковай школе дзяўчынкі і хлопчыкі вучыліся разам. Сярэднія школы былі дзяржаўнымі. Навучанне ахоплівала сем «свабодных мастацтваў» (граматыку, дыялектыку, рыторыку, арыфметыку, геаметрыю, астраномію, музыку, а таксама

заняткі спортам). Граматыка ўключала не толькі заняткі па мове, але і вывучэнне літаратурных твораў Гамера, Гесіёда, Менандра і інш.

Вяршыняй сярэдняй адукацыі быў пачатковы курс рыторыкі, у якім вывучаліся прамовы аратараў, тэорыя красамоўства, завучваліся ўзоры прамоў.

**Школы рытарычныя** – вучэбныя ўстановы ў Старажытнай Грэцыі і ў Старажытным Рыме, якія ўзначальвалі вядомыя аратары: Горгій, Лісій, Квінцііян і інш. Рытарскія школы становяцца вяршыняй адукацыі.Асабліваe месца ў старажытнагрэчаскай адукацыі займаў Ісакрат. Ён адкрыў у Афінах школу, у якой выкладаліся рыторыка, граматыка, міфалогія, гісторыя, юрыспрудэнцыя, этыка, логіка і філасофія. Нягледзячы на высокую плату за навучанне, школа Ісакрата была вельмі папулярнай.

Поруч з рытарскай школай Ісакрата ў Афінах у IV ст. да н.э. дзейнічалі яшчэ чатыры школы: Акадэмія Платона, Лікей Арыстоцеля, «Сад Эпікура» і школа стоікаў, заснаваная Зянонам. Гэтыя школы функцыянавалі на працягу існавання ўсяго антычнага свету, спарадзіўшы шматлікія накірункі і адгалінаванні.

У Рыме грэчаская адукацыйная сістэма пачала распаўсюджвацца толькі у II ст. да н.э. Першапачаткова рыторыку выкладалі грэчаскія настаўнікі. Лацінскія рытарскія школы з'явіліся толькі пры Цэзары. У апошнія стагоддзі антычнасці са школы аднаго настаўніка (напрыклад, Лібанія) маглі выйсці і заўзятыя язычнікі (Юліян Адступнік), і вядомыя дзеячы царквы (Васілій Вялікі, Іаан Златавуст).

**Экзегеза** (грэч. *eksegesis* – тлумачэнне) – філалагічнае тлумачэнне незразумелых фраз у літаратурных тэкстах антычнасці.

**Экспазіцыя** (лац. *expositio* – выкладанне, паказ) – кампазіцыйная частка тэксту апавядальнага зместу; у ёй характарызуюцца абставіны і паказваюцца падзеі, што папярэднічаюць асноўнаму дзеянню .

**Элакуцыя** (лац. – *elocutio* – спосаб выкладу, стыль, мова) – трэці раздзел класічнай рыторыкі, дзе разглядаецца моўнае афармленне падрыхтаванага зместу прамовы. Асноўная задача элакуцыі – знайсці як сказаць, гэта значыць, выбраць

тыя тропы, рытарычныя фігуры і прыёмы, якія найлепш адпавядаюць маўленчай сітуацыі, аблягчаюць успрыманне інфармацыі, прыносяць эстэтычнае задавальненне адрасату.

**Элінізм** – паняцце, якім ў 30-я гг. XIX ст. нямецкі гісторык Г.Дройзен абазначыў новы тып грамадска-палітычных і культурных адносін, што склаліся пасля  распаду імперыі Аляксандра Македонскага на Блізкім Усходзе і Пярэдняй Азіі. Эпоха элінізму характарызуецца ўтварэннем вялікіх манархій, у якіх узнікалі новыя літаратурныя напрамкі і навуковыя праблемы. Культурным цэнтрам усяго элінізаванага свету стала Александрыя – сталіца пталемееўскага Егіпта. Сваёй вяршыні культура элінізму дасягнула ў III ст. да н.э., але ўжо ў сярэдзіне II ст. да н.э. з'явілася тэндэнцыя да ўпадку. Вышэйшым дасягненнем рытарычнай тэорыі эпохі элінізму была тэорыя  знаходжання, распрацаваная Гермагорам (каля сярэдзіны II ст. да н.э.). Гермагор здолеў звесці ўсе разнастайныя судовыя казусы і адпаведныя ім  матывы ў прамовах да адзінай схемы відаў і разнавіднасцяў (сістэма статусаў). Схема атрымалася вельмі разгалінаванай і складанай, але лагічнай, дакладнай і даступнай. Сучаснікі і нашчадкі ганьбавалі педантычную дробязнасць Гермагора, якая прадугледжвала нават выпадкі, заведама нерэальныя, але прызнавалі зручнасць і карысць гэтай сістэмы.

**Энкомій** (грэч. *enkomion*, лац. *encomium*) – хвалебная песня, якая напісана ў вершах для праслаўлення якойнебудзь асобы ў час святочнага шэсця. Звычайна энкомій суправаджаўся ігрой на флейце альбо ліры. Энкомій сустракаецца ў творчасці Сіманіда і Піндара. У прозе энкомій – гэта панегірык ці рытарычнае практыкаванне, у якім ухваляецца міфалагічны персанаж ці рэальная асоба.

**Эпідэйктычная прамова** (грэч. *epideiknymi* – паказваю, раблю бачным) – урачыстая, часам напышлівая прамова, мэта якой аб'яднаць аўдыторыю адзіным эмацыянальным пачуццём: станоўчым (радасці, захаплення, любові, удзячнасці, адданасці) ці негатыўным (злосці, гневу, нянавісці, пагарды).

**Эпітафія** (грэч. *epitaphios* – надмагільны) – у Старажытнай Грэцыі надмагільная прамова, у якой побач з пахвалой выказваліся словы суцяшэння, павучання, чуўся плач. У часы класіцызму эпітафія стала самастойным лірычным жанрам.

**Эпіфара** (грэч. – *epiphora* – паўтарэнне) – рытарычная фігура; паўтарэнне аднолькавых слоў, словазлучэнняў у канцы сумежных сказаў.

**Эрыстыка** (грэч. *eristike*) – майстэрства спрачацца, умельства палемізаваць з праціўнікам, выкарыстоўваючы яго промахі.

**Этас** (грэч. *ethos*) – адна з трох асноў класічнай рыторыкі (этас – логас – пафас); маральна-этычны пачатак, які патрабуе ад аратара сур'ёзнасці, сціпласці, добразычлівасці, шчырасці ў адносінах да аўдыторыі.

**Этыка** (лац. *ethica*, ад грэч. *ethikos* – звязаны са звычаямі) – сістэма норм маральных паводзін людзей.

**Эўрыстыка** (ад грэч. *heurisko* – знаходжу): 1) сістэма лагічыных прыёмаў і правіл тэарэтычнага даследавання; 2) метад навучання пры дапамозе навадных пытанняў.

# СЛОЎНІК ПЕРСАНАЛІЙ

**Авіян** (каля 400 н.э.) – рымскі байкапісец, перакладчык баек Эзопа і Бабрыя. Зборнік баек Авіяна атрымаў шырокае распаўсюджанне ў якасці вучэбнага дапаможніка.

**Айцы Царквы** – хрысціянскія тэолагі, якія праславіліся сваёй мудрасцю, святасцю і пазнаннямі ў багаслоўі. Першапачаткова гэты тэрмін абазначаў чатырох Айцоў заходняй Царквы: Грыгорыя Вялікага, Амвросія, Аўгусціна і Іераніма, а таксама чатырох Айцоў усходняй Царквы: Васілія Вялікага, Афанасія, Грыгорыя Багаслова і Іаана Златавуста.

**Алкідамант** (5-4 стст. да н.э.) – сафіст, рытар. Яго аўтарству прыпісваецца трактат «Спаборніцтва Гамера з Гесіёдам». Шырока выкарыстоўваў тэхніку імправізацыі, якой навучыўся ў Горгія.

**Алкіфрон** (2 ст. н.э.) – грэчаскі пісьменнік, рытар, аўтар вялікага зборніка літаратурных пісем. Іх выдуманыя адрасаты і адрасанты – рамеснікі, гетэры, сяляне, парасіты, рыбакі – перанесены Алкіфронам у Афіны IV ст. да н.э. Аднак лад мыслення і ўчынкі гэтых персанажаў непасрэдна звязаны з сучаснай Алкіфрону грамадска-палітычнай сітуацыяй. Лісты Алкіфрона – гэта незвычайныя ўзоры змешанага жанру. Традыцыі атычнай камедыі з яе яскравай парадыйнасцю спалучаліся з жанрам эпіграмы і рамана. Асобныя лісты ўяляюць сабой самастойныя навелы.

**Амвросій** (333–397 гг.) – першапачаткова правазнаўца, рытар, консул Эміліі з рэзідэнцыяй у Мілане. У 374 годзе атрымаў пост епіскапа. У сваёй кампаніі супраць язычнікаў абапіраўся на ідэі Цыцэрона, Арыгена, Васілія Вялікага, Афанасія, неаплатонікаў Плоціна і Парфірыя, што забяспечыла яму поўнае разуменне і падтрымку ў асяродку культурнай інтэлігенцыі. Ён напісаў некалькі гімнаў для распеўкі ў час набажэнства, гэтым самым паклаўшы пачатак царкоўнаму песнапенню. Пасля смерці Амвросій быў прылічаны да ліку святых. Яго мошчы захоўваюцца ў Мілане і на Афоне.

**Апій Клаўдзій Цэк (Сляпы)** – рымскі цэнзар у 312 г. да н.э., консул, прэтор у 295 г. да н.э., пазней дыктатар. Напрыканцы жыцця аслеп. У яго часы быў змайстраваны першы

рымскі водаправод, збудавана знакамітая Апіева дарога, якая злучыла Рым з Капуяй.

**Арыстоцель** (384–322 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф, вучоны-энцыклапедыст, стваральнік логікі. Нарадзіўся ў Фракіі. Вучыўся ў Афінах у Платона. Пасля смерці Платона падарожнічаў па Усходняму Міжземнамор'ю і некаторы час жыў пры двары македонскага цара Філіпа II, дзе быў настаўнікам юнага Аляксандра, будучага Аляксандра Вялікага Македонскага. У 335 годзе вярнуўся ў Афіны і заснаваў Ліцэй, у якім выкладаў рыторыку амаль да самой смерці. Яго школу называлі перыпатэтычнай, таму што навучанне праводзілася ў час прагулак, пад крытай галерэяй. Напісаў кнігу «Рыторыка», якая захавалася да нашых дзён. Арыстоцель меркаваў, што рыторыка павінна развіваць здольнасць перакanання. Яго праца складаецца з трох частак: 1) аналіз прынцыпаў, на аснове якіх будуецца прамова; 2) асабістыя якасці і здольнасці, неабходныя аратару; 3) тэхніка, спосабы, прыёмы, якія прымяняюцца ў прамове. У будове прамовы Арыстоцель выдзяляў восем частак (прадмова, называнне, расповед, апісанне, доказ, абвяржэнне, заклік, заключэнне).

Работы Арыстоцеля былі сабраны і выдадзены ў I ст. да н.э. У эпоху Сярэднявечча Арыстоцеля адкрываюць нанова, у большай ступені дзякуючы працы такіх арабскіх вучоных, як Авероэс і Ібн-Сіна (Авіцэна), а ў лацінскіх перакладах Арыстоцель быў вядомы па работах Фамы Аквінскага, які ўключыў філасофію Арыстоцеля ў каталіцкую тэалогію. У эпоху Адраджэння работы Арыстоцеля перакладаліся больш, чым іншых антычных аўтараў, таму што яны складалі агульную аснову як для схаластыкаў, так і для гуманістаў.

**Аўгусцін Блажэнны Аўрэлій** (354–430 гг.) – хрысціянскі багаслоў, філосаф-містык, адзін з найбольш уплывовых айцоў хрысціянскай царквы Захаду. Шырока выкарыстоўваў у сваёй працы фармальныя дасягненні антычнай рыторыкі, дастасоўваючы да праблем рэлігіі і тэалогіі. Найбольш значная і вядомая яго аўтабіяграфічная праца «Споведзь», якая паклала пачатак спавядальнаму жанру.

**Аўсоній Дэцым Магн** (310 – каля 395 гг.) – рымскі паэт. Атрымаў філасофскую і рытарскую адукацыю на радзіме ў Тулузе, дзе стаў прафесарам граматыкі і рыторыкі. Пазней

прыняў хрысціянства, але ў душы заставаўся язычнікам. З'яўляецца аўтарам разнастайных вершаваных твораў у рытарычным стылі, сярод якіх – «каталогі» настаўнікаў паэта, яго родзічаў, вялікіх гарадоў імперыі. Захаваліся шматлікія эпіграмы, цэнтоны, вершы-практыкаванні па рыторыцы. ВершыАўсонія насычаны міфалагічнымі вобразамі і антыкварнымі падрабязнасцямі.

**Бабрый** (II ст. н.э.) – грэчаскі байкапісец італьянскага паходжання, які выдаў зборнік «Эзопавых баек». Ужо ў антычны час Бабрый стаў хрэстаматыйным аўтарам.

**Баэцый** (каля 480–524 гг.) – рымскі дзяржаўны дзеяч, філосаф, вучоны, пісьменнік – аўтар трактатаў па музыцы, матэматыцы і філасофіі. Шырока вядомыя яго лацінскія пераклады і каментарыі да Арыстоцеля. Быў абвінавачаны ў тайных сувязях з Візантыяй, кінуты ў турму, а пасля пакараны смерцю. У турме Баэцый напісаў свой знакаміты дыялог у прозе і вершах «Суцяшэнне філасофіяй», асноўная тэма якога – свабода чалавечага духу. У 1883 годзе каталіцкая царква кананізавала Баэцыя пад імем святога Севярына.

**Брут Марк Юній** (85–42 гг. да н.э.) – прыхільнік рэспублікі, разам з Гаем Касіем у 44 г. да н.э. забіў Юлія Цэзара. Брут быў на баку Пампея ў грамадзянскай вайне паміж Пампеем і Цэзарам, але пасля паражэння Пампея быў памілаваны Цэзарам і нават атрымаў высокую пасаду. Пазней Брут пад уплывам Касія ўзначаліў змову супраць Цэзара. Брут імкнуўся аднавіць Рэспубліку. Пасля смерці Цэзара Брут уцёк у Грэцыю, але пазней пацярпеў паразу ад войск Актавіяна і Антонія. Брут увайшоў у гісторыю як ідэаліст і тыраназабойца. Ён здзіўляў Плутарха маральнай стойкасцю. Для Шэкспіра Брут быў самым высакародным рымлянінам. А Дантэ паказаў Брута разам з Касіем і Іўдам Іскарыотам у апошнім, чацвёртым, поясе дзевятага кола Пекла за здраду Цэзару. Існуе версія, адпаведна якой Брут быў незаконным сынам Юлія Цэзара.

**Варон Марк Тэрэнцый** (116–27 гг. да н.э.) – найбуйнейшы і найбольш пладавіты рымскі вучоны энцыклапедыст. Паходзіў з саслоўя коннікаў, атрымаў адукацыю ў Рыме і Афінах, займаў розныя палітычныя і ваенныя пасады. Падчас грамадзянскай вайны 49 г. выступаў на варожым Цэзару баку. У 47 г. Цэзар, узяўшы пад увагу выключныя энцыклапе-

дычныя веды Варона, паставіў яго на чале новай публічнай бібліятэкі ў Рыме. Пасля смерці Цэзара адышоў ад палітыкі і пачаў займацца навукай. Паводле падання, напісаў больш чым 600 кніг. Асноўнымі творамі былі «Чалавечыя і боскія старажытнасці» ў 41 кнігах, якія, на жаль, страчаны. Да нашага часу захаваліся фрагменты «Меніпавых сатыр», трактат «Аб сельскай гаспадарцы», а таксама твор «Пра лацінскую мову».

**Васілій Вялікі,** ці **Васілій Кесарыйскі** (329–379 гг.) – прадстаўнік рытарычнай прозы, які творча наследаваў антычную спадчыну. Ён стаяў на чале гуртка кападакійскіх паэтаў і пісьменнікаў, куды ўваходзілі Грыгорый Назіанзін (Багаслоў) і Грыгорый Ніскі. У багаслоўскіх творах пісьменнікаў-кападакійцаў асноўныя палажэнні артадаксальнага хрысціянства грунтуюцца на сродках неаплатонаўскай дыялектыкі. Вялікі ўплыў на творчасць Васілія Кесарыйскага аказалі творы Плутарха са сваім практычным псіхалагізмам. Так, «Параўнальныя жыццяпісы» і «Маральныя трактаты» Плутарха паслужылі ўзорам для трактата Васілія Вялікага «Пра тое, як маладыя людзі могуць атрымаць карысць ад язычніцкіх кніг». У Васілія Кесарыйскага, як у прамоўцаў грэчаскай класікі часоў Перыкла і Дэмасфена, словы становяцца інструментам дзейснай прапаганды, перакананнем і ўздзеяннем на чалавека. Заслугоўвае ўвагі і яго «Шастаднеў» – аповед пра стварэнне свету з Кніг Быцця, дзе ўмела спалучаюцца сур'ёзныя касмічныя думкі з займальным матэрыялам позняй антычнай вучонасці. Аўтар шырока выкарыстоўвае павучальныя апавяданні пра жывёл, як своеасаблівы зварот да жанру антычнай байкі. Жывая і павучальная манера пісьма зрабіла «Шастаднеў» Васілія Кесарыйскага папулярным сярод чытачоў Сярэднявечча.

**Гамер** (канец IX – пачатак VIII ст. да н.э.) – легендарны сляпы паэт-пясняр. Яшчэ ў антычнасці Гамера лічылі аўтарам «Іліяды» і «Адысеі» – вялікіх эпічных паэм, якія былі напісаны на аснове траянскага цыкла міфаў. Сюжэтам гамераўскіх паэм з'яўляюцца розныя эпізоды Траянскай вайны. Гэтыя творы вельмі вялікія па памерах. «Іліяда» («Паэма аб Іліоне» – другая назва Троі) налічвае 15700 радкоў, «Адысея» – 12 100 радкоў. Абедзве паэмы напісаны гекзаметрам. Упершыню паэмы Гамера былі запісаны ў другой

палове 6 ст. да н.э. А народныя матэрыялы для гэтых паэм ствараліся раней, прыкладна за 2-3 стагоддзі да гэтага першага запісу (9 ст. да н.э.). Аднак, сучасная навука паказвае, што гамераўскія паэмы адлюстроўваюць яшчэ больш старажытнейшы перыяд грэчаскай ці нават дагрэчаскай гісторыі (13 ст. да н.э.). Пачынаючы з 6 ст. да н.э. рапсоды пачынаюць публічна дэкламаваць паэмы Гамера. Ў якасці ўступу да такіх дэкламацый выкарыстоўваюць «гамераўскія гімны», у якіх паэт звяртаўся да розных багоў. На жаль, мы не маем дакладных звестак пра асобу Гамера. Нават у антычны час нічога канкрэтнага пра яго не было вядома. Сем грэчаскіх гарадоў вялі паміж сабой заўзятыя спрэчкі за гонар лічыцца Бацькаўшчынай Гамера. Яму, як герою, грэкі прысвячалі храмы і алтары. Яго песні леглі ў аснову грэчаскага мастацтва, навукі і тэалогіі. Захавалася нават восем біяграфій аўтара «Іліяды» і «Адысеі», але пра іх верагоднасць гаворыць такі факт: у адной з біяграфій апавядаецца пра тое, што Гамер з'яўляўся сынам бога Апалона. Адсутнасць звестак пра асобу Гамера, а таксама наяўнасць у паэмах супярэчнасцей, стылістычнага разбою і сюжэтных няўвязак стварылі «Гамераўскае пытанне», г.зн. сукупнасць праблем, звязаных з вывучэннем «Іліяды» і «Адысеі». У дыскусіях вылучыліся дзве асноўныя гіпотэзы: аналітычная, якая расчляняе эпас на асобныя самастойныя творы, і ўнітарная, якая абараняе адзінства паэм. Творчасць Гамера зрабіла вялікі ўплыў на заходнееўрапейскую літаратуру. У Беларусі з даўніх часоў ведалі творы Аміра (так называлі Гамера ў Старажытнай Русі ў адпаведнасці з візантыйскім гучаннем).

**Гелій Аўл** (II ст. н.э.) – рымскі пісьменнік. Філасофскую і рытарскую адукацыю атрымаў у Афінах, дзе настойліва доўгімі зімовымі вечарамі рабіў выпіскі з твораў шматлікіх пісьменнікаў і філосафаў. Пасля чаго атрымалася вялікая праца ў дваццаці кнігах пад назвай «Атычныя ночы». У гэтых кнігах у форме простых гутарак і павучанняў выкладзены матэрыялы з такіх навук, як гісторыя літаратуры і мовы, філасофіі, міфалогіі, гісторыі. Спалучаючы навуковасць і займальнасць, аўтар імкнуўся садзейнічаць выкарыстанню навуковых дасягненняў у інтарэсах усеагульнай адукацыі. Аднак матэрыял у працы пададзены бессістэмна, без крытычнага асэнсавання, але галоўная вартасць яго ў шматлікіх

цытатах антычных пісьменнікаў (больш за 200). Многія з іх страчаны і да нашага часу не дайшлі.

**Герадот** (каля 484–425 гг. да н.э.) – грэчаскі гісторык, «бацька гісторыі». З Галікарнаса пераехаў на Самос, а затым у Афіны. Важным фактарам біяграфіі Герадота сталі яго падарожжы ў Вавілон, Егіпет, Асірыю, Скіфію, Калхіду, Фракію, Эладу, Малую Азію і Паўднёвую Італію. Свае назіранні падчас падарожжаў Герадот выкарыстаў для геаграфічных і этнаграфічных адступленняў, а Егіпту ён прысвяціў цэлую кнігу.

Галоўным і адзіным творам, які дайшоў да нашага часу, з'яўляецца яго «Гісторыя», у якой Герадот апісвае грэка-персідскія войны (500–443 да н.э.). Пазней «Гісторыя» была названа «Музы» і раздзелена па колькасці Муз на 9 кніг.

Вартасць працы Герадота – спалучэнне гісторыка-геаграфічнай і этнаграфічнай вучонасці з элементамі навелістычнага аповеду. «Гісторыя» складаецца з дзвюх частак: апісанне падзей пярэдадня грэка-персідскіх войн, дзе апісваюцца падзеі, звязаныя з ростам персідскай дзяржавы (I–IV кн.) і гісторыя грэка-персідскіх войн (V – IX кн.).

**Герастрат** – жыхар Эфеса, у якім знаходзіўся храм Артэміды, які лічыўся адным з сямі цудаў свету. Адпаведна падання, Герастрат, каб праславіць сваё імя, у 356 г. да н.э. у ноч нараджэння Аляксандра Македонскага падпаліў гэты храм. У сувязі з гэтым жахлівым учынкам імя Герастрата ўвайшло ў гісторыю.

У наш час імя Герастрата стала хадзячай назвай («герастратава дзеянне», «герастратаў учынак»).

**Гіпій** (V ст. да н.э.) – старажытнагрэчаскі аратар, вучоны і філосаф-сафіст. Нарадзіўся ў Элідзе. У сваіх прамовах Гіпій звяртаўся да палітыкі, гісторыі Грэцыі, міфалогіі, граматыкі, тэорыі музыкі, паэзіі, юрыспрудэнцыі, геаметрыі і астраноміі. Пісаў тэхнічныя трактаты, элегіі і трагедыі, якія захаваліся ў нешматлікіх фрагментах. Гіпій склаў спіс пераможцаў Алімпійскіх гульняў, які меў вялікае значэнне для грэчаскай храналогіі. Платон прысвяціў Гіпію два дыялогі.

**Горгій** (483–375 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі аратар, філосаф-сафіст, заснавальнік рыторыкі. Паходзіў з Леанцін (Сіцылія). У 427 г. узначаліў пасольства Леацін у

Афінах. З творчай спадчыны захаваліся дзве прамовы: «Пахвала Елене» і «Апраўданне Паламеда». Горгій быў аратарам новаўвядзенняў (т.зв. гаргіянскіх фігур), у тым ліку антытэз, сіметрычна пабудаваных перыядаў і сказаў з аднолькавымі канцоўкамі.

Горгій быў адным з галоўных прадстанікоў сафістычнай рыторыкі. Яго называлі «бацькам сафістыкі». У яго гонар, адзінага сярод грэкаў, была пастаўлена ў Дэльфах залатая статуя. Вядома, напрыклад, яго Алімпійская прамова, якая адыграла вялікую палітычную ролю. Ён заклікаў усіх грэаў да яднання супраць мідзян і персаў. Славіўся Горгій і сваімі экспромтамі на любыя тэмы. Эфект сваіх прамоў ён узмацняў яшчэ і тым, што выступаў у пурпурным адзенні.

**Гракхі (браты), Гай і Тыберый:** Гракх – мянушка вядомага рымскага плебейскага рода Семпроніеў, выдатнымі прадстаўнікамі якога былі абодва сыны Карнеліі. Тыберый (162–133 гг. да н.э.) – палітычны дзеяч Рыма, быў трыбунам. Разам з братам Гаем правёў шэраг рэформ у Італіі, каб спыніць разарэнне сялян і ўмацаваць дзяржаву і армію Рыма. На паўторных выбарах у народныя трыбуны быў забіты сенатарамі і кінуты ў Тыбр. Гай (153–121 гг. да н.э.) – палітычны дзеяч Рыма, неаднойчы выбіраўся трыбунам. Гай Гракх актывізаваў работу аграрнай камісіі, правёў шэраг дэмакратычных рэформ. Магутная апазіцыя перашкодзіла перабранню Гая паўторна трыбунам у 121 г. да н.э. Пакончыў жыццё самагубствам, тры тысячы яго прыхільнікаў былі знішчаны.

Дзейнасць братоў Гая і Тыберыя насіла дэмакратычны характар у Рыме, паклала пачатак сацыяльна-палітычнай барацьбе за перамены ў грамадскай структуры. У эпоху позняй Рэспублікі і Імперыі дзейнасць братоў была агульнапрызнанай. Высока ацэньвае іх дзейнасць у «Параўнальных жыццяпісах» Плутарх.

**Дыянісій Галікарнаскі** (каля 55 – каля 8 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі рытар і гісторык. Нарадзіўся ў Галікарнасе (Малая Азія). У трыццацігадовым узросце пераехаў у Рым, дзе пражыў больш дваццаці гадоў. Напісаў «Старажытную гісторыю Рыма» ў 20-ці тамах. Дыянісію належаць і літаратурна-крытычныя трактаты пра аратараў і гісторыкаў (Лісій, Ісакрат, Дэмасфен і інш.). Эстэтычныя

погляды Дыянісія асабліва адлюстраваліся ў яго працы «Аб спалучэнні слоў». Аратар Дыянісій сцвярджаў, што ў прамове абавязкова патрэбна прыгажосць для афармлення годнай думкі. Тэарэтычныя разважанні рытара заўсёды падмацоўваліся аналізам шматлікіх прыкладаў з паэтычных і празаічных літаратурных твораў.

**Дэмад** (каля 380–319 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі аратар, які нарадзіўся ў Афінах. Выйшаў з бедных слаёў і не змог атрымаць адукацыю, але быў бліскучым аратарам-імправізатарам. Выступаў супраць Дэмасфена і сваімі прамовамі неаднаразова перамагаў яго. Пасля бітвы пры Херанее ў 338 г. трапіў у палон, дзе змог пераканаць македонскага цара Філіпа заключыць мір з Афінамі.

**Дэмасфен** (384-322 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі аратар, палітычны дзеяч, арганізатар барацьбы супраць македонскага цара Філіпа ІІ. Дэмасфен нарадзіўся ў Афінах, у сям'і ўладальніка зброевай і мэблявай майстэрняў. З дзяцінства ён пакутаваў фізічнымі недахопамі (косная-зыкасць, слабы голас, нервовы цік). У сямігадовым узросце ён страціў бацьку, а маёмасць сям'і была растрачана несумленнымі апекунамі. Самастойнае жыццё Дэмасфен пачаў з 364 г., паспяхова выступіўшы на судовым працэсе супраць апекуноў. У далейшым Дэмасфен стаў лагографам, зарабляючы сабе грошы за складзеныя ім прамовы для судовых працэсаў. Упартымі практыкаваннямі ён здолеў пераадолець свае фізічныя недахопы. Прамоўніцкаму майстэрству вучыўся ў Ісея, вядомага складальніка прамоў, у якога запазычваў строгую логіку доказаў, лаканічнасць аповеду, любоў да рытарычных пытанняў.

Дзейнасць Дэмасфена прыпадае на трагічны перыяд у жыцці Афін і ўсёй Грэцыі, калі Філіп Македонскі, а затым яго сын Аляксандр вялі захопніцкую вайну супраць Грэцыі. У 351 годзе Дэмасфен прамовіў сваю першую прамову супраць Філіпа. Ваяваў супраць захопнікаў. Быў выгнаны па ложным абвінавачванні, затым ўрачыста вернуты ў Афіны. Заклікаў да барацьбы супраць македонцаў. Дэмасфен заставаўся верным сабе да канца свайго жыцця: пасля таго як Македонія паступова падпарадкавала сабе Грэцыю (пасля 338 г. да н.э.), аўтар бліскучых прамоў супраць Філіпа ( 8 т.зв. «Філіпікаў») дабраахвотна прыняў яд.

Да нашых дзён захаваліся 63 творы, вядомых пад агульнай назвай «Дэмасфенаўскі корпус». Усе яго прамовы можна падзяліць на тры групы: судовыя па прыватных справах, судова-палітычныя і палітычныя.

Прамовы Дэмасфена аргументаваныя, ясныя па выкладзе; фразы ў іх, як правіла, кароткія, эмацыянальна напоўненыя. Поспех прамоў Дэмасфена, упэўненага, непадкупнага і адважнага, гарантаваўся добра адпрацаванай жэстыкуляцыяй і прадуманымі ва ўсіх адносінах артыстычнымі паводзінамі на трыбуне. Дэмасфен быў не абыякавы і да тэорыі рыторыкі, таму развіў шэраг прынцыпова важных думак аб сутнасці красамоўства і асобы аратара.

**Дэметрый I** – старажытнагрэчаскі філосаф, аратар і дзяржаўны дзеяч (каля 350–283 гг. да н.э.). Паходзіць з Фалера, партовага прадмесця Афін. Прадстаўнік школы перыпатэтыкаў, вучань Феафраста. Дэметрый быў адным з заснавальнікаў і арганізатараў Александрыйскай бібліятэкі. Яго працы насілі этычны, палітычны і гісторыка-літаратурны характар, але, на жаль, былі згублены. Захаваліся толькі асобныя фрагменты (напрыклад, збор афарызмаў «Сямі мудрацоў»).

**Дэметрый II** – старажытнагрэчаскі рытар (каля I ст. н.э.), аўтар трактата «Аб стылі». У адрозненне ад сваіх папярэднікаў выдзяляў не тры, а чатыры стылі: просты, урачысты, прыгожы і магутны. Рапрацаваў вучэнне аб узаемадзяенні стыляў:магчымы розныя спалучэнні стыляў, толькі ўрачысты і просты выключаюць адзін аднаго. Дадзены трактат вызначаецца лаканічнасцю фармулёвак і шматстайнасцю ў падборы яскравых прыкладаў.

**Заіл** (каля 400 – каля 330 гг.да н.э.) – грэчаскі настаўнік рыторыкі. У сваіх творах «Супраць Гамера» і «Ганьбаванне Гамера» высмейваў і крытыкаваў легкавернасць Гамера і яго герояў. Імя Заіла стала сінонімам злога і несправядлівага крытыка.

**Зянон** (каля 336–264 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф, заснавальнік стаіцызму. Родам з Кіпра. Арганізаваў сваю філасофскую школу (каля 300 г. да н.э.) Распрацаваў асноўныя прынцыпы стаіцызму: паняцце пра космас як разумным арганізме; уяўленне пра Зеўса-Логаса, атаясамляльным з прыродай; непарыўнае адзінства свету за кошт

вогненнага дыхання; запазычанае ў Геракліта вучэнне аб перыядычным узнікненні і знішчэнні сусветаў.

**Іаан Златавуст** (каля 350–407 гг.) – знакаміты хрысціянскі аратар, ранневізантыйскі пісьменнік, візантыйскі царкоўны дзеяч, які арганічна ўвасобіў у сабе антычнага рытара і хрысціянскага багаслова. Іаан нарадзіўся і вырас у сірыйскім горадзе Антыохія, буйным культурным цэнтры Усходняй Рымскай імперыі, дзе перакрыжоўваліся традыцыі самых розных народаў. Па тым часе атрымаў бліскучую хатнюю адукацыю. Рыторыцы Іаан вучыўся ў школе вядомага аратара Лібанія (314 – каля 393 гг.). У 398 годзе Іаан быў прызначаны архіепіскапам Канстанцінопаля. Яму прыпісваюць каля 800 пропаведзей і павучальных гутарак, якія прысвечаны праблемам хрысціянства, сям'і, хрысціянскага выхавання, нормам паводзін хрысціяніна ў розных сітуацыях, ролі святара ў абшчыне і інш. Аўтар шэрагу панегірыкаў і псалмоў. Сярод візантыйскіх знатакоў красамоўства Іаан праславіўся як сапраўдны майстра слова, а ў Праваслаўнай царкве незвычайна вялікі яго аўтарытэт як свяціцеля і тлумачальніка Святога Пісання. Праз 100 гадоў пасля смерці гэты царкоўны пісьменнік атрымаў мянушку Златавуст (па-грэчаску Хрысастом). У рытарычных школах мянушка Златавуста надавалася тым, хто дасканала авалодваў усімі тонкасцямі пабудовы, арнаменталізацыі, а таксама мастацтвам вымаўлення прамовы. У творчасці Златавуста спалучаліся дзве традыцыі, якія пазней склалі падмурак усёй наступнай еўрапейскай культуры: антычная і старажытнаяўрэйская. У «Жыцціі Іаана Златавуста», адным з ранніх перакладных помнікаў славянскай агіяграфіі IX–X стст., апавядаецца пра гады вучобы Іаана, пра яго першыя аскетычныя подзвігі, аб пашырэнні славы аратара ў Антыохіі і за яе межамі, аб падкопах супраць яго царквы на чале з Феафілам Александрыйскім, што прывяло да двухкратнага асуджэння і выгнання Златавуста з Канстанцінопаля спачатку ў Арменію, а затым у Піцыунт (цяпер Піцунда). На шляху ў апошнюю ссылку Іаан памірае.

**Іеранім** (каля 348–420 гг.) – рымскі пісьменнік, граматык, рытар, філосаф і тэолаг. Вучыўся ў Рыме рыторыцы, затым здзейсніў паломніцтва на Усход, хутка пасля звароту ў Рым Іеранім накіраваўся ў Палесціну, дзе да самай смерці

быў пустэльнікам. Творы Іераніма носяць адбітак высокай антычнай адукаванасці і культуры (трактат «Аб знакамітых мужах», «Пісьмы» і інш.). Надаваў вялікую ўвагу праблемам выхавання. Ажыццявіў лацінскі пераклад Біблії (Вульгата), які быў прызнаны каталіцкай царквой кананічным.

**Ісакрат** (каля 436–338 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі аратар, настаўнік рыторыкі, тэарэтык красамоўства. Вучань сафістаў Продзіка, Пратагора, Горгія, а таксама Сакрата. Жыў у Афінах, заснаваў школу, якая стала самай вялікай у Эладзе. Вялікай папулярнасцю карысталіся не толькі яго судовыя прамовы, але і палітычныя памфлеты. У сваёй праграмнай прамове «Супраць сафістаў» Ісакрат выказаў свой погляд на навучанне аратараў, дзе паказаў рыторыку як сродак у маральным і палітычным выхаванні. З творчай спадчыны Ісакрата захавалася 21 прамова, 9 лістоў і некалькі фрагментаў з дапаможніка па рыторыцы. Усё гэта дазваляе назваць яго вялікім майстрам пісьмовага красамоўства. Паводле падання, Ісакрат пакончыў жыццё самагубствам пасля паразы грэкаў з Македоніяй у Херанее.

**Ісей** (каля 420 – каля 350) – старажытнагрэчаскі аратар з вострава Яўбея. Пісаў прамовы для ўдзельнікаў судовых працэсаў па справах наследавання спадчыны. Яго прамовы даюць багаты матэрыял пра эканамічныя і сямейныя адносіны ў Афінах. Шматлікія рытарычныя прыёмы Ісея ў далейшым будзе выкарыстоўваць і развіваць яго вучань, вялікі грэчаскі аратар Дэмасфен.

**Катон Старэйшы** (Марк Порцый, 234–149 гг. да н.э.) – рымскі грамадскі дзеяч, аратар. Прыхільнік старарымскага ўкладу жыцця і самабытнага развіцця рымскай культуры. Знаток сельскай гаспадаркі. У трактаце «Земляробства» Катон апісаў жыццё рабаўладальніцкага маёнтка, даваў карысныя навучанні па розных галінах сельскай гаспадаркі. Катон адным з першых склаў «Рыторыку», якая, на жаль, не захавалася. Рымлянам было вядома каля 150 прамоў Катона. Яго аратарскае майстэрства высока ацэньваў Цыцэрон, указваючы на моц яго слова, з’едлівасць у нападках і вастрыню думак. Катон быў першым рымскім гісторыкам, які пісаў на роднай лацінскай мове і першым у Рыме тэарэтыкам красамоўства.

**Квінціліян Марк Фабій** (35 – каля 100 гг.) – знакаміты рымскі аратар з Іспаніі, тэарэтык літаратурнага класіцызму.

Квінціліян быў прызначаны імператарам Веспасіянам першым прафесарам рыторыкі. Сярод яго вучняў былі Тацыт і Пліній Малодшы; Квінціліянам захапляўся Ювенал.

Квінціліян самы вядомы рытар Рыма канца І ст. н.э. Пліній і Марцыял лічылі яго гордасцю Рыма, імператар Веспасіян утрымліваў яго школу за дзяржаўны кошт, імператар Даміцыян зрабіў яго настаўнікам сваіх наследнікаў. Гэта быў час, калі пачалася рэстаўрацыя класічнага стылю «залатога веку»; паэты пачалі капіраваць Вергілія, аратары – Цыцэрона. Квінціліян стаў важаком гэтага літаратурнага неакласіцызму. Самаадданы паклоннік Цыцэрона, ён бачыў у яго рытарычнай спадчыне залог выратавання ад «спакуслівай сапсаванасці» новага стылю. Таму для Квінціліяна Цыцэрон ужо не імя, а сімвал красамоўства: «Чым больш табе падабаецца Цыцэрон, тым больш будзь упэўнены ў сваіх поспехах», – гаворыць ён вучню.

Працы Квінціліяна прымяняліся ў якасці практычнага кіраўніцтва па рыторыцы многімі пакаленнямі рытараў, але, на жаль, амаль усе яны страчаны. Аднак яго важнейшая праца «Рытарычныя настаўленні ў дванаццаці кнігах» дайшла да нас поўнасцю. Так, 1-я кніга «Рытарычных настаўленняў» прысвечана першапачатковаму выхаванню хлопчыка ў сям'і і ў настаўніка-граматыка да іх заняткаў рыторыкай; 2-я кніга – заняткам у рытарычнай школе і прыродзе рыторыкі як навукі; 3-я – 9-я кнігі – своеасаблівая энцыклапедыя традыцыйнай тэорыі аратарскага мастацтва; 10-я кніга – агляд грэчаскай і рымскай літаратуры па жанрах, веданне якой неабходна аратару; 11-я кніга прысвечана знешнім прыёмам аратара; 12-я кніга – маральнаму і грамадскаму вобразу аратара.

У сваёй працы Квінціліян улічыў увесь вопыт класічнай рыторыкі і абагульніў уласны дваццацігадовы вопыт выкладання рыторыкі і судовага адваката. У творы Квінціліяна аналізуецца тэорыя і практыка рымскага красамоўства, разглядаюцца праблемы педагогікі, этыкі, даецца характарыстыка рытарычных школ і стыляў. «Рытарычныя настаўленні» Квініцілияна – вяршыня даследавання аратарскага мастацтва.

**Коракс і Цісій** – першыя рытары, настаўнік і вучань з Сіракуз, каторыя адкрылі першыя рытарскія школы, стварылі першыя вучэбныя дапаможнікі, якія карысталіся

вялікай папулярнасцю ў тагачасным грэчаскім свеце. Пазней Цісій перасяліўся ў Афіны, дзе працаваў поплеч з Горгіем.

**Лібаній** (314 – каля 393 н.э.) – грэчаскі філосаф і рытар, родам з Антыохіі (Сірыя). Атрымаў адукацыю ў Афінах, выступаў з прамовамі ў гарадах Малой Азіі. У Антыохіі кіраваў аратарскай школай. Захавалася звыш сотні прамоў, каля тысячы лістоў, а таксама яго «Аўтабіяграфія». Даследчыкі дзеляць прамовы Лібанія на дзве групы: 1) прамовы, якія звязаны з падзеямі таго часу ці з прафесійнымі інтарэсамі рытара; 2) прамовы пра выдуманыя сітуацыі, своеасаблівыя дэкламацыі.

Прамовы Лібанія закранаюць разнастайныя дзяржаўныя і грамадскія тэмы. Лібаній быў перакананым язычнікам і захапляўся антычнай культурай і рэлігіяй.

**Лісій** (каля 459–380 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі аратар. Жыў у Афінах. Прадстаўнік судовага красамоўства. Галоўнай вартасцю прамоў Лісія з'яўляецца псіхалагічная дакладнасць характарыстыкі і паказ рэальнага жыцця сучаснікаў. Лісій быў вядомым лагографам, таму карыстаўся вялікай папулярнасцю. Ужо ў антычны час было вядома 425 прамоў Лісія. Да нашага часу захавалася 34, у тым ліку адна судовая прамова і дзве ўрачыстыя (па загінуўшых у Карынфскай вайне і прысвечана святу ў Алімпіі).

Моцным бокам прамоў у Лісія з'яўляецца так званы аповед – выклад акалічнасцей справы, што ператварыўся ў жывыя, захапляльныя, запамінальныя і дакладныя карціны жыцця Афін.

**Марк Аўрэлій** (121–180 гг.) – рымскі імператар, філосаф, прадстаўнік позняга рымскага стаіцызму. Атрымаў бліскучую дапаможнюю адукацыю. Займаўся рыторыкай, пазней пачаў вывучаць філасофію. Будучы імператарам, Аўрэлій імкнуўся выратаваць Рымскую імперыю ад набегаў знешніх ворагаў,ад паўстання ў самой імперыі, а таксама ад эпідэміі чумы. Асабіста ўдзельнічаў у ваенных паходах, падчас якіх напісаў кнігу «Разважанні» («Да самога сябе»). Кніга складаецца з этычных і агульнафіласофскіх разважанняў. Аўтар звяртаецца да вучэння старажытных стоікаў. Бог стоікаў Логас атаясамліваецца з прыродай і лёсам, з'яўляецца разумным пачаткам усяго існага. Чалавек павінен імкнуцца будаваць сваё духоўнае жыццё ў адпаведнасці з разумным

жыццём Логаса. Марк Аўрэлій шмат чаго запазычыў у Геракліта. На думку Аўрэлія, з трох элементаў чалавечага існавання (цела, душа, розум), толькі трэцяе па-сапраўднаму належыць чалавеку. У поглядах філосафа Аўрэлія прасочваецца ўплыў скептыкаў і эпікурэйцаў.

**Палідэўк Юлій** (II–III стст.) – старажытнагрэчаскі сафіст і філолаг-лексікограф. Быў настаўнікам рыторыкі ў Афінах, выхавацелем рымскага імператара Камода. Палідэўк саставіў для імператара «Анамастыкон» у 10-ці кнігах – своеасаблівую энцыклапедыю, у якой словы размяшчаліся ў кнігах на адпаведную тэматыку. Так, кніга IV прысвечана лексіцы на тэму музыкі, танцаў і тэатра, кніга X – гульням.

**Перыкл** (490–429 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі палітычны дзеяч, аратар, які ўзначаліў дэмакратычны рух у Афінах. Прамовы Перыкла вызначаліся глыбінёй думкі, шчырасцю, прастатой формы, магутнай сілай уздзеяння на слухачоў. У час Пелапанэскай вайны Перыкл прапанаваў стратэгічны план, які быў разлічаны на знясіленне праціўніка і на фінансавую магутнасць Афін. Ён змог пераканаць народ у неабходнасці аддаць часова ворагу сваю зямлю і маёмасць, схаваўшыся за гарадскімі сценамі, у той час, як афінскі флот будзе руйнаваць уладанні спартанцаў. Перыкл увабраў у сябе найлепшыя рысы лідэра дзяржавы, які дбаў толькі пра дабрабыт і росквіт радзімы. Пры Перыклу Афіны сталі цэнтрам духоўнай культуры Грэцыі і дасягнулі, па словах грэчаскага гісторыка Фукідыда, «найвышэйшай магутнасці». Перыкл памёр падчас эпідэміі чумы. Час кіравання Перыкла (50 – 30 гг. V ст. да н.э.) называюць «залатым векам» афінскай дэмакратыі.

**Платон** (427–347 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф, родапачынальнік аб'ектыўнага ідэалізму – аднаго з асноўных напрамкаў антычнай філасофіі. Нарадзіўся і памёр у Афінах, паходзіў са старажытнага арыстакратычнага роду. Вучань Сакрата і настаўнік Арыстоцеля. У аліўкавым гаі непадалёку Афін Платон заснаваў сваю школу – Акадэмію. Галоўную задачу літаратуры і мастацтва Платон бачыў у тым, каб спрыяць правільнаму выхаванню грамадзян; ствараць вобразы, вартыя для пераймання. Супрацьпаставіў практычнай рыторыцы сафістаў вучэнне аб праўдзівым красамоўстве. На думку Платона, аратар,

які складае прамову, павінен правільна вызначыць прадмет гэтай прамовы, пазнаць ісціну прадмета, разумець людзей, для якіх прызначана прамова.  Вылучаючы на першы план эмацыйную пераканаўчасць, Платон не лічыў важнымі лагічныя довады. У сваіх высокамастацкіх дыялогах «Горгій» і «Федр» Платон замацаваў разуменне рыторыкі як сродак пераканання. Ён указваў на розніцу прамоў рытара і філосафа. Рытар жадаў не пераканацца сам, а пераканаць іншага. Філосаф хацеў у першую чаргу пераканацца сам, гэта значыць знайсці ісціну. Яго прамова – гэта разважанне ўголас з мэтай пошукаў ісціны.

Маральная філасофія Платона аказала значны ўплыў на рымскіх мысліцеляў, асабліва на Цыцэрона, а пасля таго як у XV ст. фларэнціец Марсіліо Фічына пераклаў творы Платона з грэчаскай мовы на лацінскую, уплыў Платона на ўсю заходнюю культуру стаў сапраўды агромністым.

**Пліній Малодшы** (61–112 гг.) – пляменнік і прыёмны сын Плінія Старэйшага. Пліній Малодшы (Гай  Пліній Цэцылій Секунд) быў сенатарам, адвакатам, сябрам Тацыта, Святонія і Марцыяла. Ён сабраў і надрукаваў дзевяць кніг сваіх «Пісем», у якіх сучаснае для Плінія рымскае грамадства паказваецца з пункту гледжання адукаванага чыноўніка. Захаваўся хвалебны панегірык Плінія імператару Траяну, які паслужыў узорам для далейшых хвалебных прамоў рымскім імператарам.  Дзесятая кніга «Пісем» Плінія была надрукавана пасля яго смерці. У ёй пададзена афіцыйная яго перапіска з Траянам у якасці прадстаўніка імператара ў Віфініі. Тут абмяркоўваюцца праблемы правінцыйных хрысціянскіх абшчын.

**Плоцін** (204–270 гг.) – першы грэчаскі філосаф, які паклаў пачатак неаплатанізму. Спачатку жыў у Александрыі, а затым у Рыме. Працы Плоціна сабраў яго вучань Парфірый. Плоцін дапоўніў вучэнне Платона ідэямі ўсходняй містыкі. Ідэі Плоціна аказалі ўплыў на Аўгусціна, а праз яго на ўсю заходнюю хрысціянскую думку. Эстэтыка Плоціна аказала значны ўплыў на філасофска-эстэтычныя прынцыпы Адраджэння, пазней – на творчасць Гётэ, Шэлінга.

**Плутарх** (каля 46 – каля 126 гг.) – грэчаскі эсэіст і біёграф. Нарадзіўся ў Херанее (Беотыя), вучыўся ў Афінах, быў жрацом Апалона Піфійскага ў Дэльфах. Многа падарожнічаў,

пабываў ў гарадах Грэцыі, Італіі, Егіпта, Малой Азіі, неаднакратна наведваў Рым, дзе і атрымаў рымскае грамадзянства. Да нашага часу захавалася значная частка твораў Плутарха, сярод якіх самымі вядомымі з'яўляюцца «Маралія» і «Параўнальныя жыццяпісы». У «маральных трактатах» Плутарх разглядае праблемы літаратуры, філасофіі, медыцыны, рыторыкі, гісторыі музыкі і тэалогіі. Усё гэта сведчыць пра ўніверсальную выхаванасць і адукаванасць аўтара. У «Параўнальных жыццяпісах» Плутарх падаў 46 біяграфій знакамітых грэкаў і рымлян (Дэмасфен – Цыцэрон, Аляксандр Македонскі – Юлій Цэзар і інш.).

Творы Плутарха з'яўляюцца неацэннымі дакументамі яго эпохі. Яны аказалі грандыёзны ўплыў на гуманістаў эпохі Адраджэння. Менавіта Мантэнь, Шэкспір, нямецкія класікі абавязаны Плутарху сваім натхненнем і творамі.

**Пратагор** (каля 480 – каля 410 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф, заснавальнік сафістыкі з фракійскага горада Абдэры. Прафесійны настаўнік дабрачыннасці, якую ён разумеў як уменне дасягнуць пастаўленай мэты, – гэты погляд крытыкаваўся Сакратам у платонаўскім дыялогу «Пратагор». Па сведчанню Дыягена, Пратагор любую прамову дзяліў на чатыры часткі: аповед, пытанне, адказ і загад. Сярод твораў Пратагора называюць «Мастацтва спрэчкі», «Аб барацьбе», «Аб навуках», «Прэнне» і інш. Пратагор быў агностыкам і лічыў, што ніякія веды не могуць выйсці за межы чалавечай суб'ектыўнасці. Гэту думку ён выказаў з дапамогай вядомага афарызма: «Чалавек – мера ўсіх рэчаў». У 418 годзе ў Афінах Пратагор быў абвінавачаны ў бязбожнасці, зняслаўлены і выгнаны. Паводле падання,ён неўзабаве загінуў у час караблекрушэння.

**Продзік** (нар. каля 470 г. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф-сафіст з вострава Кеос. Яго працы не захаваліся. Па сведчанні Платона, Продзік вывучаў імёны, займаўся аналізам сінонімаў. Яго вучэнне аказала ўплыў на фарміраванне асноў філалагічнай навукі.

**Сакрат** (470–399 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф, мысліцель-мараліст. Нарадзіўся і жыў у Афінах. Знакаміты філосаф і мудрэц не пакінуў ні адзінага напісанага радка. Усе яго думкі і гутаркі былі запісаны яго вернымі вучнямі, першае месца сярод якіх належыць Платону. Сакрат быў

удзельнікам Пелапанэскай вайны (431–404 гг. да н.э.). У зімовую сцюжу, калі іншыя воіны мёрзлі ў цеплым адзенні, вялікі настаўнік жыцця крочыў басанож па ільду і снезе. Афінян здзіўляла незвычайная стойкасць і прастата Сакрата. Жыццё вялікага старажытнагрэчаскага мудраца і аратара закончылася трагічна. Яго прыгаварылі да смяротнага пакарання за разбэшчванне моладзі і за пакланенне несапраўдным багам.

Сакрат дасканала валодаў дыялектычным метадам дыялога. Будучы адным з родапачынальнікаў дыялектыкі, ён распрацаваў метад пошука ісціны шляхам пастаноўкі навадных пытанняў. Для Сакрата дыялектыка – гэта мастацтва весці гутарку, разважанне з мэтай знаходжання ісціны. Гэтым самым Сакрат супрацьстаяў сафістам, у якіх зусім іншым быў метад абмеркавання пытанняў.

**Салон** (каля 640 – каля 560 гг. да н.э.) – афінскі дзяржаўны дзеяч і закадаўца, якога выбралі ў 594 г. архонтам і надзялілі надзвычайнымі паўнамоцтвамі, каб спыніць грамадзянскую смуту. Салон спыніў анархію і правёў свае знакамітыя рэформы: вызваліў беднату ад даўгоў, забараніў даўгавое рабства афінян, якія былі прададзены ў рабства за граніцу, выкупіў іх за дзяржаўны кошт. Строга вызначыў абавязкі Народнага Сходу і стварыў Савет чатырохсот – дзяржаўны орган прадстаўнікоў усіх афінскіх філ, рашэнні якога выносіліся на разгляд Народнаму сходу. Акрамя таго, Салон – гэта першы вядомы афінскі паэт. Пісаў ён у асноўным на палітычныя і патрыятычныя тэмы. Захаваліся асобныя фрагменты яго твораў. Старажытныя прылічалі яго да сямі мудрацоў свету.

**Сенэка Луцый Анэй Малодшы** (4 г. да н.э. – 65 г. н.э.) – рымскі рытар, пісьменнік, паэт, драматург і філосаф, сын Сенэкі Старэйшага. Некаторы час Сенэка быў выхавацелем і галоўным саветнікам імператара Нерона. Сенэка Малодшы паўстае як буйны грамадскі дзеяч, філосаф-стоік, аўтар маральна-філасофскіх трактатаў і дзесяці трагедый. У 65 г. н.э. Нерон абвінавачвае Сенэку ў дачыненні да змоўшчыкаў супраць імператара, пасля чаго апальны філосаф у сваім доме выпівае кубак з атрутай, ускрывае сабе вены і, акружаны вучнямі, дыктуючы прасякнутыя ідэямі стаіцызму развагі аб жыцці і смерці, памірае.

Сенэку разам з Цыцэронам і грэчаскімі філосафамі Дантэ і Вергіліем (ў «Боскай камедыі») сустракаюць на Лімбе. Святы Джэром нават уключыў Сенэку ў свой спіс хрысціянскіх святых, спасылаючыся на апакрыфічную перапіску Сенэкі з апосталам Паўлам. Сенэка аказаў уплыў на такіх мысліцеляў Адраджэння і Новага часу, як Петрарка, Эразм Раттэрдамскі, Бэкан і Мантэнь.

**Сенэка Луцый Анэй Старэйшы** (55 г. да н.э. – 40 г. н.э.) – рымскі аратар. Нарадзіўся ў Іспаніі, адукацыю атрымаў у Рыме. Захаваліся яго творы «Контраверсіі» («Спрэчкі») у 10-ці кнігах і «Свазорый» («Перакананні») у 7-мі прамовах. У творах, якія Сенэка напісаў для сваіх сыноў, даецца характарыстыка рымскага красамоўства пачатку Імперыі. Ён меў на мэце захаваць ад забыцця і скажэнняў словы знакамітых аратараў і рытараў, выхаваць густ у сваіх сыноў. У кнігах згадваецца каля 120 імёнаў.

**Сімах Квінт Аўрэлій** (каля 345 – пасля 400 гг.) – рымскі аратар, галава язычніцкай часткі сената. Узначальваў гурток рымскіх арыстакратаў, якія імкнуліся захаваць традыцыі старой рымскай культуры. Значнасць і заслуга гуртка Сімаха заключалася ў беражлівым захаванні вывераных тэкстаў рымскіх пісьменнікаў, а таксама каментарыяў да іх. Сучаснікі высока ацэньвалі Сімаха як аратара. Нават хрысціянскі паэт Прудэнцый лічыў яго ўпрыгожваннем школы рымскага красамоўства.

**Тацыт Публій Карнелій** (каля 55–120 гг. н.э.) – гісторык імператарскага Рыма, выдатны аратар, быў сенатарам і консулам. Яго настаўнікам быў Марк Фабій Квінцiлiян. Блізкім сябрам Тацыта быў Пліній Малодшы, які напісаў свае ўражанні пра вывяржэнне Везувія спецыяльна для ўключэння ў «Гісторыю» Тацыта. Самы ранні твор Тацыта «Дыялог пра аратараў», у якім паказваюца прычыны ўпадка рыторыкі з часоў Рэспублікі. Галоўнымі творамі Тацыта з'яўляюцца «Гісторыя» і «Аналы», якія захаваліся не ў поўным аб'ёме. Лацінскі стыль Тацыта з'яўляецца ўнікальным па сваёй інтэнсіўнасці і эпіграмнасці, хоць парой і адчуваецца ўплыў Салюстыя. У эпоху Сярэднявечча Тацыта практычна не ведалі, і толькі з канца XIV ст. расце цікавасць да твораў Тацыта. У эпоху Адраджэння яго «Аналы» і «Гісторыя» перажылі другое сваё нараджэнне.

**Феафраст** (372–287 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф-перыпатэтык, вучань Арыстоцеля, кіраўнік Лікея (322–287 гг.). З твораў Феафраста цалкам захаваліся дзве працы па батаніцы, яго лічаць «бацькам батанікі». Распрацоўваючы пачатую Арыстоцелем класіфікацыю характараў, Феафраст стварыў цыкл «Характары» – 30 нарысаў, у якіх падаецца характарыстыка розных тыпаў людзей (балбатуна, ліслівца, пляткара, нахабніка, скнары і інш.). Дадзены трактат стаў асноваю для распрацоўкі камічных сітуацый у творах антычных камедыёграфаў, у прыватнасці Менандра.

Працы Феафраста па рыторыцы не захаваліся, але вядома, што яго трактат «Аб стылі» аказаў значны ўплыў на антычную тэорыю аратарскага мастацтва, у тым ліку і на Цыцэрона.

**Фемістый** (IV ст. н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф і рытар. Нарадзіся ў Пафлагоніі (Малая Азія). У маладосці перасяліўся ў Канстанцінопаль, дзе пачаў кар'еру прыдворнага аратара, на працягу 40 гадоў займаў розныя дзяржаўныя пасады, дасягнуў высокага і ўплывовага становішча. Захавалася 35 прамоў і пераказы некаторых прац Арыстоцеля. Некаторыя з прамоў звернуты да імператараў, закранаюць пытанні ўлады і спосабаў кіравання, указваюць на якасці ідэальнага кіраўніка, некаторыя носяць асабісты ці літаратурна-палітычны характар. Ва ўсіх прамовах Фемістый падкрэслівае сваю любоў да філасофіі, асабліва да Платона. Мова твораў Фемістыя адпавядае нормам класічнай атычнай прозы.

**Франтон Марк Карнелій** (каля 100 – каля 169 гг.) – рымскі аратар, прадстаўнік архаізму. Нарадзіўся ў Афрыцы, магчыма, вучыўся ў Александрыі. Амаль ўсё жыццё пражыў у Рыме. Быў настаўнікам імператара Марка Аўрэлія (161 – 180 гг.). Захаваліся лісты Франтона на рытарычныя тэмы да імператара і да сваіх сяброў, а таксама некаторыя дэкламацыі і рытарычныя практыкаванні.

**Фрасімах** (V ст. да н.э.) – старажытнагрэчаскі рытар, прадстаўнік «малодшых» сафістаў, аўтар тэзіса, адпаведна якому «справядліва тое, што карысна моцнаму» (дужаму).

**Хрысіп** (каля 280 – каля 204 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філосаф-стоік. Па словах Дыягена Лаэртскага, Хрысіпу належыць 705 трактатаў па логіцы і этыцы, ад якіх захаваліся

невялікія фрагменты. Хрысіп указваў на адзінства душы і розуму, лічыў чалавечыя эмоцыі памылковымі разважаннямі. Ён распрацаваў этычнае вучэнне аб імкненні да самазахавання. Хрысіп адным з першых са стоікаў заснаваў вучэнне пра часціны мовы, вычленіўшы семантычныя і сінтаксічныя прыкметы ўласных і агульных назоўнікаў, дзеяслова, злучніка і артыкля (разам з займеннікам). Пазней яго аднадумцы-стоікі на аснове яго даследавання развілі вучэнне пра часы дзеяслова.

**Цыцэрон Марк Тулій** (106–43 гг. да н.э.) – знакаміты старажытнарымскі аратар, палітычны дзеяч, пісьменнік, ідэолаг Рымскай рабаўладальніцкай рэспублікі. Паходзіў з саслоўя коннікаў. Мяркуюць, што адзін з продкаў Цыцэрона быў селянінам і займаўся агародніцтвам. «Цыцэра» – ад гароху, адсюль і такая правінцыйная мянушка, якой пазней так ганарыўся вялікі аратар, абяцаючы сваім насмешнікам праславіцца нараўне з арыстакратычнымі імёнамі. Атрымаў элінскую адукацыю ў Афінах і Радосе, дзе вывучаў грэчаскую мову, матэматыку, літаратуру, лацінскую мову, філасофію. У 15 гадоў пачаў вывучаць юрыспрудэнцыю. У 27 гадоў стаў адвакатам па крымінальных і грамадзянскіх справах. Сфарміравацца Цыцэрону як аратару дапамог Апалоній Мелак, вядомы настаўнік красамоўства, а манерам трымацца на трыбуне ён вучыўся ў знакамітага акцёра Росцыя.

У 70-я гады Цыцэрон дасягнуў палітычнага прызнання, выдае свае прамовы, раскрывае змову Каціліны (патрыцый, прыхільнік рымскага дыктатара Сулы). Аднак палітычныя інтрыгі вымушаюць яго адмовіцца ў 63 г. ад тытула консула. У снежні 43 г. Цыцэрон быў асуджаны і забіты.

Забойцы былі падасланыя Антоніем, які помсціў Цыцэрону за яго «філіпікі» (так назваў, пераймаючы Дэмасфена, сам Цыцэрон свае прамовы супраць Антонія). «Бацьку айчыны» (такое ганаровае званне было нададзена Цыцэрону сенатам пасля падаўлення змовы Каціліны) па загаду Антонія адсеклі галаву і правую руку і выставілі ў Рыме на форуме.

Са спадчыны Цыцэрона захавалася 58 палітычных і судовых прамоў, 19 трактатаў – па рыторыцы, палітыцы і філасофіі, а таксама звыш 800 лістоў, у якіх вельмі шмат каштоўных звестак аб грамадзянскім і прыватным жыцці рымлян.

Вялікае значэнне маюць Цыцэронаўскія трактаты па рыторыцы, якія сабраны ў адной кнізе пад назвай «Тры трактаты аб прамоўніцкім майстэрстве», куды ўвайшлі трактаты «Пра аратара», «Брут», «Аратар». Цыцэрон не выпадкова іх так назваў, таму што ў цэнтры ўвагі старажытнарымскага класіка красамоўства канкрэтны вобраз чалавека-аратара. Цыцэронаўскі вобраз аратара – гэта сфарміраваны ідэал чалавека высокай пары антычнасці. Чалавек-грамадзянін свайго слова і справы, які спалучыў у сабе філасофскую глыбіню ведаў і практычных навыкаў. Гэты вобраз прайшоў праз стагоддзі і застаўся як яркае ўвасабленне таго, што мы называем гуманізмам, які аказаў магутны ўплыў на ўсю гісторыю еўрапейскай культуры.

**Цэзар Гай Юлій** (100–44 гг. да н.э.) – рымскі палітычны дзеяч, палкаводзец, вядомы пісьменнік, аратар. Захаваліся два яго творы: «Запіскі пра гальскую вайну» і «Запіскі аб грамадзянскай вайне». Творы носяць мемуарны характар. У іх апавядаецца пра дзейнасць Цэзара ў час яго ваенных паходаў (58 – 52 гг. да н.э.) і пра палітычныя падзеі ў Рыме 49-48 гг. да н.э. (вайна Цэзара з Пампеем). Творы Цэзара з'яўляюцца важнымі крыніцамі, у якіх многа цікавых звестак аб жыцці галаў, германцаў і брытанцаў. Гістарычныя працы Цэзара лаканічныя па форме, напісаны даступнай мовай. Асабістае жыццё Цэзара красамоўна апісвае Святоній у кнізе «Жыццё дванаццаці Цэзараў», Плутарх падае партрэт Цэзара ў сваіх «Параўнальных жыццяпісах». Забойства Цэзара Брутам – сюжэт п'есы Шэкспіра «Юлій Цэзар».

**Эмпедокл** (каля 493–433 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філасаф, аратар, урач і палітычны дзеяч. Прыхільнік рабаўладальніцкай дэмакратыі. З прыходам да ўлады арыстакратыі быў выгнаны з Сіцыліі і перасяліўся на Пелапанэс, дзе і памёр (ці кінуўся ў кратэр вулкана Этны). Падобна Піфагору прапагандаў перасяленне душ і вегетарыянства, цікавіўся медыцынаю. На думку Эмпедокла, усе рэчы складаюцца з чатырох элементаў: агню, паветра, зямлі і вады, якія і ўтвараюць сусвет. Літаратурную спадчыну складаюць дзве яго паэмы «Аб прыродзе» і «Ачышчэнне», прасякнуты ідэямі піфагарэізму: аб бяссмерці душы, перасяленні душ з аднаго цела ў другое і маральным ачышчэнні.

**Эпікур** (341–271 гг. да н.э.) – старажытнагрэчаскі філасаф, заснавальнік эпікурэйскай сістэмы філасофіі. Прыехаў у Афіны з Самоса і заснаваў школу, вядомую пад назвай «Сад Эпікура». Школа Эпікура па сваёй вартасці і значнасці не ўступала Акадэміі Платона. Асноваю вучэння Эпікура была атамістычная тэорыя Дэмакрыта. Рымскі паэт Лукрэцый Кар у сваёй паэме «Аб прыродзе рэчаў» найлепшым чынам паказаў ідэі Эпікура, якія ўспрымае і сам Лукрэцый. Эпікурэізм быў вельмі папулярны ў антычным свеце, вытрымліваючы нападкі як з боку стоікаў, так і з боку хрысціянства.

**Эсхін** (каля 389 – каля 322 гг. да н.э.) – афінскі аратар, палітычны дзеяч. Выступаў на баку македонскага цара Філіпа супраць Дэмасфена, што адлюстравалася ў такіх прамовах Эсхіна, як «Супраць Цімарха», «Аб вераломным пасольстве» і «Супраць Ктэсіфонта». Знакамітай прамоваю «Аб вянку» Дэмасфен, які быў увянчаны Ктэсіфонтам ганаровым вянком за палітычныя заслугі, атрымаў перамогу над сваім праціўнікам. Пасля паразы Эсхін у 330 г. уцёк на Радос.

**Юстыніян** (482–565 гг.) – імператар Усходняй Рымскай імперыі (527–565 гг.). З дапамогай войска Велізарыя прыкрываў граніцы Заходняй імперыі ад нашэсця персаў і плямён, што засялялі Балканскі паўвостраў. Юстыніян звёў у адзінае цэлае ўсе рымскія законы («Кодэкс Юстыніяна»). Пабудаваў Храм Святой Сафіі ў Канстанцінопале. Адпаведна традыцыі, закрыў грэчаскія філасофскія школы.

# СЛОЎНІК ЛАЦІНСКІХ АФАРЫЗМАЎ І ВЫРАЗАЎ[1]

**Ab uno disce omnes (*Вергілій*).** Па адным мяркуй аб усіх.

**Accípere quam fácere praestat injúriam (*Цыцэрон*).** Лепш прыняць, чым нанесці крыўду.

**Ad cárceres a calce revocári (*Цыцэрон*).** Вярнуцца ад фінішу да старту, г.зн. вярнуцца да пачатку.

**Ad consílium ne accésseris, antequam vóceris (*Цыцэрон*).** На савет не ідзі, пакуль не паклічуць.

**Ad eúndem lápidem bis offéndere (*Цыцэрон*).** Двойчы зачапіцца за адзін і той жа камень, г.зн. зрабіць ізноў тую ж памылку.

**Adolescéntis (adulescéntis) est majóres natu veréri (*Цыцэрон*).** Малады павінен паважаць старэйшых.

**Ad perníciem solet agi sincéritas (*Федр*).** Шчырасць вядзе да гібелі.

**Aédibus in cínerem redáctis sero infúnditur aqua (*Квінціліян*).** Калі дом ператварыўся ў попел, позна ліць ваду.

**Aeqúalis aequálem deléctat (*Цыцэрон*).** Падобны падобнага любіць.

**Aequat omnes cinis, impáres náscimur, pares morimur (*Сенэка*).** Прах усіх раўнуе, няроўнымі нараджаемся, роўнымі паміраем.

**Aequo ánimo audiénda sunt imperitórum convícia (*Сенэка*).** Трэба спакойна слухаць крыкі невукаў.

**Ágere consideráte pluris est quam cogitáre prudénter (*Цыцэрон*).** Важней дзейнічаць разважна, чым разумна разважаць.

**Alba discérnere et atra non posse (*Цыцэрон*).** Не ўмець адрозніваць белае ад чорнага.

**Álea jacta est (*Святоній*).** Жэрабя кінута.

**Aliéna nobis, nostra plus áliis placent (*Сенэка*).** Чужое – нам, а наша другім больш падабаецца.

[1] Гл.: Гончарова Н.А., Щербакова И.М. Из античной мудрости. – Мн.: Выш. шк., 1995. – 373 с.

**Aliórum vítia cérnere, oblivísci suórum *(Цыцэрон).*** Бачыць чужыя недахопы, забываючы на свае.

**Áliquem cum basi sua metíri *(Сенэка).*** Мерацць кагосьці разам з яго п'едэсталам, г.зн. залішне перабольшваць, пераацэньваць.

**Álium silére quod voles, primus sile *(Сенэка).*** Аб чым хочаш, каб другі маўчаў, сам маўчы.

**Áltera manu fert lápidem, panem osténtat áltera *(Плаўт).*** У адной руцэ трымае камень, у другой працягвае хлеб.

**Alter frenis eget, alter calcáribus *(Цыцэрон).*** Аднаму патрэбна аброць, другому – шпоры.

**Amíci óptima vitae supéllex *(Цыцэрон).*** Сябры – лепшае ўпрыгожванне жыцця.

**Amicórum commúnia ómnia *(Цыцэрон).*** У сяброў усё агульнае.

**Amícus est tamquam alter ego *(Піфагор).*** Сябар – як бы другі я.

**Amicus Plato, sed magis amica veritas *(Арыстоцель).*** Платон мне сябар, але ісціна даражэй.

**Amíttit mérito próprium, qui aliénum áppetit *(Федр).*** Заслужана траціць сваё той, хто хоча захапіць чужое.

**Amor etiam deos tangit *(Пятроній).*** Каханне раніць нават багоў.

**Amor perénnis caestae cónjugis manet *(Сенэка).*** Каханне адданай жонкі застаецца вечным.

**Ánimi sub vulpe latent *(Гарацый).*** Людзі ў шкуры лісіцы, г.зн. крывадушнікі.

**Apértis tibiis *(Квінцыліян).*** На поўны голас.

**Aúrea mediócritas *(Гарацый).*** Залатая сярэдзіна.

**Auri sacra fames *(Вергілій).*** Праклятая прага золата.

**Áúrum reclúdit cuncta *(Цыцэрон).*** Золата адчыняе ўсё.

**Bene qui látuit, bene vixit *(Авідзій).*** Шчасліва пражыў жыццё той, хто жыў непрыкметна.

**Bonis honésta fert exítium véritas *(Федр).*** Сумленная праўда добрым прыносіць пагібель.

**Bovi clitéllae impónere *(Квінцыліян).*** Надзець на карову сядло.

**Cántus cycnéus (*Цыцэрон*).** Лебядзіная песня.

**Cédant arma togae *(Цыцэрон)*.** Няхай зброя ўступіць (месца) тозе, г.зн. няхай вайна адступіць перад мірам. Тога – грамадзянскае адзенне рымляніна.

**Chamaeleónte mutabílior *(Платон)*.** Зменлівы больш за хамелеона. Аб няшчырых, крывадушных людзях.

**Cibi condiméntum fames est *(Цыцэрон)*.** Голад – (найлепшая) прыправа да яда.

**Cognósce te ipsum *(Сакрат)*.** Пазнай самога сябе.

**Commúne qui prior (prius) dicit, contrárium facit *(Квінціліян)*.** Хто першы ставіць двухбаковавостры довад, той паварочвае яго супраць сябе.

**Conjugátio mellis et fellis *(Апулей)*.** Змяшаць мёд і жоўць.

**Consciéntia mille testes *(Квінціліян)*.** Сумленне – тысяча сведкаў.

**Consuetúdo est áltera natúra (*Цыцэрон*).** Прывычка – другая натура.

**Contra aquam remigáre *(Сенэка)*.** Веславаць супраць цячэння.

**Cópia cibórum subtílitas ánimi impéditur *(Сенэка)*.** Празмернасць ежы перашкаджае тонкасці розуму.

**Cui dolet, méminit *(Цыцэрон)*.** Каму баліць, той помніць.

**Cum propínquis amicítiam natúra ipsa péperit (sed ea non satis habet firmitátis) *(Цыцэрон)*.** Дружбу з блізкімі сама прырода стварыла (толькі яна недастаткова трывалая).

**Cúpio ipsórum naufrágia ex terra intuéri *(Цыцэрон)*.** Я жадаў бы на іх крушэнне глядзець з берага.

**Deest remédii locus, ubi, quae vítia fuérunt, mores fiunt *(Сенэка)*.** Няма месца лекам там, дзе тое, што лічылася заганай, становіцца звычаем.

**Dignus est, quicum in ténebris mices *(Цыцэрон)*.** Варты (давер'я) той, з кім і ў цемры светла (бяспечна).

**Docéndo díscimus *(Сенэка)*.** Навучаючы іншых, мы вучымся (самі).

**Docto hómini et erúdito vívere est cogitáre *(Цыцэрон)*.** Для чалавека вучонага і адукаванага жыць – значыць мысліць.

**Dolor dolórem trudit et metus metum *(Сенэка)*.** Скруха параджае скруху, і страх параджае страх.

**Dóminum plúrimum vidére in rebus suis *(Федр)*.** Гаспадар у справах сваіх больш бачыць.

**Ego versiculos feci, tulit alter honóres** ***(Вергілій).*** Я склаў вершы, а славу пажынае другі.

**Epístula non erubéscit** ***(Цыцэрон).*** Пісьмо не чырванее. У рымлян усё можна было пісаць, але не ўсё гаварыць.

**Erráre humánum est** ***(Сенэка).*** Чалавеку ўласціва памыляцца.

**Erráre, mehércule, malo cum Platóne, quam cum istis vera sentíre** ***(Цыцэрон).*** Лічу за лепшае памыляцца з Платонам, чым думаць праўдзівае з гэтымі (людзьмі), г.зн. піфагарэйцамі.

**Étiam in verbis solútis inest númerus** ***(Цыцэрон).*** Гармонія ўласціва і бязладнай мове, г.зн. прозе.

**Et secúndas res splendidióres facit amicítia et advérsas partiens communicánsque levióres** ***(Цыцэрон).*** Дружба шчасце ўзмацняе і няшчасце палягчае сваім спачуваннем і падтрымкай.

**Extréma frequénter una hábitant** ***(Арыстоцель).*** Крайнасці часта жывуць разам.

**Facílius est plus fácere, quam idem** ***(Квінціліян).*** Лягчэй зрабіць больш, чым тое самае.

**Facis de necessitáte virtus** ***(Іеранім).*** Ты робіш з патрэбы дабрадзейнасць.

**Fames malum panem ténerum et siligíneum reddit** ***(Сенэка).*** Голад дрэнны хлеб робіць пшанічным.

**Férie inter se plácidae sunt** ***(Сенэка).*** Звяры паміж сабой ласкавыя.

**Fungus una nocte náscitur** ***(Цыцэрон).*** Грыб вырастае за адну ноч.

**Furor iráque mentem praecípitat** ***(Віргілій).*** Лютасць і гнеў розуму шкодзяць.

**Gallus in suo sterquilínio plúrimum potest** ***(Сенэка*****).** І певень на сваім папялішчы храбрыцца.

**Glória virtútem tamquam umbra séquitur** ***(Цыцэрон).*** Слава, як цень, ходзіць следам за доблесцю.

**Gravis ira regum est semperre** ***(Сенэка).*** Гнеў цароў заўсёды цяжкі.

**Homo unius libri** ***(Квінціліян).*** Чалавек адной кнігі. Пра чалавека, які знае нямнога, але грунтоўна.

**Honésta quaedam scélera succéssus facit** ***(Сенэка).*** Поспех і ганебныя справы (злачынствы) робіць пачэснымі.

**In idem flumen bis non descéndimus *(Сенэка).*** У адну і тую ж раку двойчы не ўступаюць.

**Iníqua nunquam impéria retenéntur diu *(Сенэка).*** Несправядлівая ўлада недаўгавечная.

**In poētis non Homero soli locus est *(Цыцэрон).*** Сярод паэтаў ёсць месца не аднаму толькі Гамеру, г.зн. ёсць і іншыя вартыя паэты.

**Intérpres mentis est orátio *(Цыцэрон).*** Мова – тлумачальнік спосабу мыслення.

**Ipsa se velócitas ímplicat *(Сенэка).*** Паспешлівасць сама сабе перашкаджае.

**Jam néminem antepónes Catóni *(Цыцэрон).*** Ужо вышэй Катона ты не паставіш нікога. Катон Старэйшы лічыўся ўзорам грамадзянскай доблесці і справядлівасці. Увогуле пра аўтарытэт у любой галіне.

**Labor ómnia vincit impróbus *(Вергілій).*** Усё перамагае ўпартая праца.

**Lácrima nihil cítius arescit *(Цыцэрон).*** Нічога не сохне хутчэй за слязу.

**Levis est consolátio ex miséria aliórum *(Цыцэрон).*** Лёгка знайсці суцяшэнне, калі гора чужое.

**Magnam rem puta unum hóminem ágere *(Сенэка).*** Вялікая справа быць заўсёды адным і тым жа, г. зн. валодаць пастаянствам.

**Máximum bonum est amicítia *(Цыцэрон).*** Дружба – найвялікшае дабро.

**Mediocritátem illam tenére, quae est inter nímium et parum *(Цыцэрон).*** Трымацца той сярэдзіны, якая паміж лішнім і малым.

**Médio tutíssimus ibis *(Авідзій).*** Сярэдзіна – самы бяспечны шлях.

**Mélius est injustítiam ferre quam fácere *(Аўгусцін).*** Лепш крыўду знесці, чым нанесці.

**Mélius non incípient, quam désinent *(Сенэка).*** Лепш не пачынаць, чым прыпыніцца на паўдарозе.

**Mendácem memórem esse oportet *(Квінціліян).*** Ілгуну трэба мець добрую памяць.

**Mendáci hómini ne verum quidem dicénti crédere non solémus *(Цыцэрон).*** Мы не верым ілгуну нават тады, калі ён гаворыць праўду.

**Mens cuíque deus** ***(Геракліт).*** Розум – Бог для кожнага.

**Multa magis quam multórum lectióne formánda mens** ***(Квінціліян).*** Трэба развіваць розум, чытаючы многа, але не многіх (аўтараў).

**Navigáre necésse est, vívere non est necésse** ***(Плутарх).*** Плысці неабходна, жыць няма неабходнасці. Словы Пампея, з якімі ён першы ўзышоў на карабель, каб даставіць у Рым хлеб з Сардыніі, Сіцыліі і Афрыкі, нягледзячы на буру, якая ўзнялася.

**Nemo non benígnus est sui judex** ***(Сенэка).*** Ніводны чалавек не бывае нядобразычлівым суддзёй самому сабе.

**Ne sit vitiósus sermo nutrículis** ***(Квінціліян).*** Не павінна быць заганаў у мове таго, хто выхоўвае (дзіця).

**Nihil dat fortúna mancípio** ***(Сенэка).*** Лёс нічога не дае ў вечную ўласцівасць.

**Nihil est mesérius, quam ánimis cónscius** ***(Плаўт).*** Няма нічога больш вартага жалю, чым нячыстае сумленне.

**Nihil est tam populáre, quam bónitas** ***(Цыцэрон).*** Нішто так не цэніцца народам, як дабрата.

**Non scholae, sed vitae díscimus** ***(Сенэка).*** Не для школы, а для жыцця мы вучымся.

**Nom ubíque idem décorum est** ***(Квінціліян).*** Не ўсюды адно і тое ж прынята.

**Nusquam est, qui ubíque est** ***(Сенэка).*** Хто ўсюды – той нідзе.

**Obséquium amícos, véritas ódium parit** ***(Тэрэнцый).*** Падатлівасць стварае сяброў, а праўда нараджае нянавісць.

**Omne malum nascens fácile opprímitur** ***(Сенэка).*** Усякае зло лёгка падавіць у зародку.

**Omnem natúram conservatrícem esse sui** ***(Цыцэрон).*** Уся прырода імкнецца да самазахавання.

**Opiniónem cápere** ***(Цэзар).*** Здабыць сабе славу.

**Opórtet ferrum túndere dum rudet** ***(Сенэка).*** Трэба каваць жалеза, пакуль яно чырвонае (гарачае).

**Óptima citíssime péreunt** ***(Гамер).*** Прыгожае недаўгавечнае.

**Oratóres fiunt, poētae nascúntur** ***(Цыцэрон).*** Прамоўцамі становяцца, паэтамі нараджаюцца.

**O témpora, o móres! (*Цыцэрон*)** Што за час, што за нора-вы!

**Pátria est, ubicúmque est bene *(Цыцэрон).*** Айчына ўсюды, дзе добра жывецца.

**Pátria mihi mea cárior est *(Цыцэрон).*** Радзіма для мяне даражэй за жыццё.

**Per dubitando ad veritatem pervenimus *(Цыцэрон).*** Праз сумненні прыходзім да ісціны.

**Piscis his non est ómnium *(Цыцэрон).*** Гэта рыба не для ўсіх (аб духоўным пажытку).

**Poscunt fidem secúnda, at advérsa éxigunt *(Сенэка).*** Шчасце мае патрэбу ў вернасці, няшчасце ж не можа абысціся без яе.

**Praestígiae verbórum *(Цыцэрон).*** Слоўны туман.

**Proprio captus est laqueo *(Іеранім).*** Трапіў ва ўласную сетку.

**Quae fuit durum pati, meminísse dulce est *(Сенэка).*** Што было цяжка выпакутаваць, пра тое прыемна ўспамінаць.

**Qualis vir, talis orátio *(Сенэка).*** Які чалавек, такая і размова.

**Quem poénitet pecasse, poene est ínnocens *(Сенэка).*** Пакаяннай галавы меч не сячэ.

**Qui dedit benefícium, táceat, narret, qui accépit *(Сенэка).*** Хто зрабіў добрую справу, хай маўчыць, гаворыць няхай той, для каго яна зроблена.

**Quoúsque tandem abutére, Catilína, pariéntia nostra? *(Цыцэрон).***Да якога часу, Каціліна, ты будзеш злоўжываць нашым цярпеннем?

**Rem tene, verba sequéntur *(Катон).*** Авалодай справай (зместам), а словы знойдуцца.

**Rerumráritas prétium facit *(Сенэка).*** Рэдкасць рэчаў павышае іх кошт.

**Res sevéra est verum gaúdium *(Сенэка).*** Сапраўдная весялосць (жарт, смех) – справа сур'ёзная.

**Sacrilégia minúta puniúntur, magna in triúmphis ferúntur *(Сенэка).*** Дробныя злачынствы караюцца, а вялікія праслаўляюцца.

**Semper homo bonus tiro est *(Марцыял)*.** Прыстойны чалавек заўсёды прастак, г.зн. яго лёгка ашукаць.

**Séquitur supérbos ultor e tergo Deus *(Сенэка).*** Следам за фанабэрыстым ідзе божая помста.

**Sero sápiunt Phriges, dúmmodo sápiant *(Цыцэрон).*** Позна разумнеюць фрыгійцы, абы толькі разумнелі.

**Sine fábula esse *(Квінціліян).*** Мець бездакорную рэпутацыю.

**Sisýphi saxum vólvere *(Цыцэрон).*** Варочаць Сізіфаў камень.

**Stulti stulta orátio est *(Сенэка).*** У дурня і гаворка дурная.

**Stultórum plena sunt ómnia *(Цыцэрон).*** Дурняў поўна ўсюды.

**Sua cuíque calámitas tanquam ars assignátur *(Сенэка).*** Кожнаму прызначаны беды як быццам для навукі.

**Succéssus multos ad perníciem dévorat *(Федр).*** Поспех многіх вядзе да пагібелі.

**Sumúntur a conversántibus mores *(Сенэка).*** З кім павядзешся, ад таго і набярэшся.

**Surdo (asello) fabéllam narráre *(Гарацый).*** Расказаць байку глухому (аслу).

**Suum cuíque rei tempus *(Сенэка).*** Кожнай справе свой час.

**Tēmpore quaedam magna fiunt, non summa *(Сенэка).*** Высока цэніцца не столькі вынік, колькі своечасовасць яго.

**Ubi caput (ibi) et cáetera membra *(Аўгусцін).*** Куды галава, туды і астатнія члены.

**Umbram suam métuit *(Цыцэрон).*** Ценю свайго баіцца.

**Usus magíster est óptimus *(Цыцэрон).*** Вопыт – лепшы настаўнік.

**Ut desint vires tame nest laudánda volúntas *(Авідзій).*** Няхай не хапае сіл, але жаданне ўсё ж пахвальнае.

**Uti tuo damno cognóscas *(Гамер).*** Вучыся на сваёй бядзе, г.зн. рабі для сябе вывады.

**Veni, vidi, vici *(Цэзар).*** Прыйшоў, убачыў, перамог. Цэзар аб перамозе над пантыйскім царом Фарнакам.

**Vera ornaménta matronárum pudicítio non vestes *(Юстыніан).*** Сапраўдным упрыгожаннем жанчыны з'яўляецца сарамлівасць, а не адзенне.

**Verba dare in ventos *(Авідзій).*** Гаварыць на вецер. (Дасл.: выдаваць словы на вецер)

**Verisímile méntiens *(Гамер).*** Праўдападобна лжэ.

**Véritas odit moras** ***(Сенэка).*** Ісціна не церпіць адтэрміновак, г.зн. яна павінна быць выказана без прамаруджання.

**Véritas se ipsa defféndit** ***(Цыцэрон).*** Ісціна сама сябе абараняе.

**Veritátem dies áperit** ***(Сенэка).*** Ісціна адкрывае час.

**Vértere in fumum et cínerum** ***(Гарацый).***Ператварыць у дым і попел.

**Virtus suo aere censétur** ***(Сенэка).*** Каштоўнасць дабрачыннасці ў ёй самой.

**Vitia sine praeceptóre discúntur** ***(Сенэка).*** Дрэнным учынкам вучымся без настаўніка.

**Vitiósum est ubíque, quod nímium est** ***(Сенэка).*** Усё лішняе шкоднае.

**Vívere est cogitáre** ***(Цыцэрон).*** Жыць – значыць мысліць. (Дэвіз Вальтэра).

# ЛІТАРАТУРА

1. *Аверинцев, С.С.* Риторика как подход к обощению действительности // Поэтика древнегреческой литературы / С.С. Аверинцев. – М.: Наука, 1981. – С. 15–46.
2. *Александров, Д.Н.* Риторика: Учеб пособие для вузов / Д.Н. Александров. – М.: Юнити-Дана, 1999. – 534 с.
3. *Анічэнка, У.В.* Набожнае слова і антычная мудрасць крочаць побач / У.В. Анічэнка, А.А.  Станкевіч. – Гомель, 1997. – 220 с.
4. *Анпеткова-Шарова, Г.Г.* Античная литература. – СПб.: Филологический факультет СПб ГУ / Г.Г. Анпеткова-Шаро-ва, В.С. Дуров. – М.: Издательский центр «Академия», 2004. – 480 с.
5. Античность и современность. – М.: Наука, 1972. – 504 с.
6. Аристотель и античная литература. – М.: Наука, 1978. – 229 с.
7. Античность и Византия. – М.: Наука, 1975. – 415 с.
8. *Аристотель.* Риторика / пер. Н. Платоновой / *Аристотель* // Античные риторики / под ред. А.А. Тахо-Годи. –  М.: Изд-во МГУ, 1978. – С. 15–164.
9. *Ахманов, А.С.* Платон / *А.С.Ахманов, Грабарь-Пассек* // История греческой литературы: В 3-х т. 2. – М.: Изд-во Академии наук СССР, 1955. – С. 180–198.
10. *Ахманов, А.С., Грабарь-Пассек М.Е.* Аристотель / *А.С. Ахманов, М.Е. Грабарь-Пассек* // История греческой литературы. В 3-х: т. 2 – М.: Изд-во Академии наук СССР, 1955. – С. 199–218.
11. *Бычков, В.В.* Античные традиции в эстетике раннего Августина // Традиции в истории культуры. – М.: Наука, 1978. – С. 85–105.
12. Византия и Русь. – М.: Наука, 1989. – 336 с .
13. *Грабарь-Пассек, М.Е.* Квинтилиан  / М.Е. Грабарь-Пас-сек // История римской литературы. В 2 т. Т. 2. – М.: Изд-во Академии наук, 1962. – С. 143–156.
14. *Грабарь-Пассек, М.Е.* Риторика. Поэзия. Наука II–III вв. / М.Е. Грабарь-Пассек // История римской литературы. В 2 т.: т. 2. – М.: Идз-во Академии наук, 1959. – С. 295–314.

15. *Гончарова, Н.А.* Из античной мудрости / *Н.А. Гончарова, И.М. Щербакова.* – Мінск: Выш. шк., 1995. – 373 с.
16. *Грабарь-Пассек, М.Е.* Цицерон / М.Е. Грабарь-Пассек // История римской литературы. В 2 т.: т. 1. – М.: Изд-во Академии наук, 1959. – С. 178–233.
17. *Григорьева, Н.И.* Парадоксы платоновского «Тимея»: диалог и гимн / Н.И. Григорьева // Поэтика древнегреческой литературы. – М.: Наука, 1981. – с. 47–95.
18. *Григорьева, Н.И.* Поэтика аллегории в «Метаморфозах»: Платонизм в художественном сознании Апулея/Н.И. Григорьева // Поэтика древнегреческрй литературы. – М.: Наука, 1981. – с. 186–233.
19. *Козаржевский, А.Ч.* Античное араторское искусство: пособие по спецкурсу / А.Ч. Козаржевский. – М.: Изд-во МГУ, 1980.
20. *Кузнецова, Т.И.* Техника повествования в ораторском искусстве / Т.И. Кузнецова // Поэтика древнеримской литературы: Жанры и стиль. – М.: Наука, 1982. – С. 157–185.
21. *Кузнецова, Т.И.* Ораторское искусство в Древнем Риме / Т.И. Кузнецова, И.П. Стрельникова. – М.: Наука, 1976. – 285 с.
22. *Куманецкий, К.* История культуры Древней Греции и Рима / К. Куманецкий. – М: Высш. шк., 1990. – 351 с.
23. *Лебядзевіч, Д.М.* Антычныя рэмінісцэнцыі ў візантый-скай літаратуры IV–VII стст. / Д.М. Лебядзевіч // Творчество Адама Мицкевича и современная мировая культура: сб. науч. раб. / под ред С.Ф. Мусиенко. – Гродно: ЧПУП «Изда-тельство «Ламарк», 2010. – С. 201–206.
24. *Лисовый, И.А.* Античнй мир в терминах, именах и названиях: Слов-справ. по истории и культуре Древ. Греции и Рима / И.А. Лисовый, К.А. Ревяко. – Минск: Беларусь, 1996. – 253 с.
25. *Лосев, А.Ф.* Очерки античного символизма и мифологии / А.Ф. Лосев. – М.: Мысль, 1993. – 959 с.
26. *Лосев, А.Ф.*, Платон. Аристотель /А.Ф. Лосев, А.А. Тахо-Годи. – М.: Мол. Гвардия, 1993. – 383 с.
27. *Марченко, О.И.* Риторика как норма гуманитарной культуры / О.И. Марченко. – М.: Наука, 1994. – 191 с.

28. *Мурина, Л.А.* Риторика: учебник. / Л.А. Мурина. – Мн.: Універсітэцкае, 1994. – 272 с.
29. Ораторы Греции: Пер. с древнегреч. / сост. и науч. подгот. текстов М. Гаспаров. – М.: Худож. лит., 1985. – 495 с.
30. *Плутарх,* Избранные жизнеописания / Плутарх. – Минск: Беларусь, 1995. – 543 с.
31. Практикум по истории риторики: Пособие для студентов филологов / Л.А. Мурина, Т.В. Игнатович, И.В. Таяновская, С.А. Шантарович. – Минск: Изд. Центр БГУ, 2003. – 164 с.
32. *Радциг, С.И.* Введение в классическую филологию / С.И. Радциг. – М.: Изд-во Московского унивесритета, 1965. – 524 с.
33. *Сенека, Луций Анней.* Нравственные письма к Луцилию: трагедии / Луций Анней Сенека / пер с латин. вступ. статья С. Ошерова. – М.: Худож. лит., 1986. – 543 с.
34. *Соболевский, С.И.* Ораторское искусство / С.И. Соболевский // История греческой литературы. – В 3-х т.: т. 2.– М.: Изд-во Академии наук СССР, 1955. – С. 219–297.
35. *Соболевский, С.И.* Ораторское искусство / С.И. Соболевский // История греческой литературы: В 3-х т.: т. 2. – М.: Изд-во Академии наук СССР, 1955. – С. 219–297.
36. *Цицерон Марк Туллий.* Избранные сочинения / Марк Туллий Цицерон / пер. с латин. сост. и ред. М. Гаспарова, С. Ошерова и В. Смирина. – М.: Худож. лит., 1975. – 456 с.
37. *Цицерон.* Речи / Цицерон / отв. ред. М.Е. Грабарь-Пассек: В 2 т. 2-е изд. М.: Наука, 1993. Т. 1. – 443 с.; Т. 2. – 400 с.
38. *Цицерон.* Три трактата об ораторском искусстве / Цицерон. – М.: Наука, 1972. – 471 с.
39. *Шейнов, В.П.* Риторика /В.П. Шейнов. – Минск: Амалфея, 2000. – 592 с.

# АЛФАВІТНЫ ПЕРАЛІК ТЭРМІНАЎ І НАЗВАЎ

Абструкцыя
Авацыя
Агітацыйная прамова
Агностык
Акадэмія
Аксюмаран
Акцыо гіпакрызіс
Александрыйская паэзія
Алюзія
Анадыплозіс
Аналіз рытарычны
Аналы
Анафара
Антытэза
Антычная адукацыя
Антычны
Аратар
Аратарская прамова
Аратарская проза
Арэапаг
Асіндэтон
Атыцызм – азіянізм
Аэд
Біяграфія
Візантыйская рыторыка
Гамілетыка
Гаргіянскія фігуры
Гармонія маўленчай падзеі
Геданістычны тып маўлення
Гімнасій
Гіпербала
Гіпербатан
Гласарый
Глоса
Гнома
Данатысты
Дыспазіцыя

Дыялог
Дыятрыба
Інвектыва
Інвенцыя
Какафонія
Канон рытарычны
Катахрэза
Квадрывіум
Кінікі
Класічны
Клаўзула
Космас
Лагографы
Лаканізм
Лекіф
Меморыя
Метабасіс
Метафара
Метэмпсіхоз
Музей
Неатэрыкі
Палітычная прамова
Панегірык
Патрыстыка
Пафас
Паэзія-гісторыя
Паэтыка
Пелапанэская вайна
Перыпатэтызм
Перыпатэтыкі
Поліс
Полісіндэтон
Порцік
Рапсод
Рытар
Рыторыка
Рыторыка да Герэнія
Рэцытацыя
Сафізм

Сафісты
Сафістыка другая
Сілагізм
Сілагістыка
Стоікі
Схаластыка
Схоліі
Трактат
Трыбун
Трывіум
Тэма
Фабула
Філіпіка
Хіязм
Хрысціянства
Хрыя
Школа антычная
Школы рытарычныя
Экзегеза
Экспазіцыя
Элакуцыя
Элінізм
Энкомій
Эпідэйктычная прамова
Эпітафія
Эпіфара
Эрыстыка
Этас
Этыка
Эўрыстыка

# АЛФАВІТНЫ ПЕРАЛІК ПЕРСАНАЛІЙ

Авіян
Айцы Царквы
Алкідамант
Алкіфрон
Амвросій
Апій Клаўдзій Цэк
Арыстоцель
Аўгусцін Блажэнны Аўрэлій
Аўсоній Дэцым Магн
Бабрый
Баэцый
Брут Марк Юній
Варон Марк Тэрэнцый
Васілій Вялікі,
ці Васілій Кесарыйскі
Гамер
Гелій Аўл
Герадот
Герастрат
Гіпій
Горгій
Гракхі (браты), Гай і Тыберый
Дыянісій Галікарнаскі
Дэмад
Дэмасфен
Дэметрый I
Дэметрый II
Заіл
Зянон
Іаан Златавуст
Іеранім
Ісакрат
Ісей
Катон Старэйшы
Квінціліян Марк Фабій
Коракс і Цісій
Лібаній

Лісій
Марк Аўрэлій
Палідэўк Юлій
Перыкл
Платон
Пліній Малодшы
Плоцін
Плутарх
Пратагор
Продзік
Сакрат
Салон
Сенэка Луцый Анэй Малодшы
Сенэка Луцый Анэй Старэйшы
Сімах Квінт Аўрэлій
Тацыт Публій Карнелій
Феафраст
Фемістый
Франтон Марк Карнелій
Фрасімах
Хрысіп
Цыцэрон Марк Тулій
Цэзар Гай Юлій
Эмпедокл
Эпікур
Эсхін
Юстыніян

## Дадатак 1

# СІНХРАНІСТЫЧНАЯ ТАБЛІЦА

| Гістарычныя падзеі | Даты (гг. да н.э.) | Літаратура, філасофія, рыторыка |
|---|---|---|
| **Старажытная Грэцыя** | | |
| Траянская вайна, канец мікенскай Грэцыі | 1200–1000 | |
| Гамераўская эпоха | 1000–750 | Паэмы «Іліяда» і «Адысея» |
| | 800–700 | Узнікненне грэчаскага алфавіта |
| Першая алімпіяда | 776 | |
| Грэчаская каланізацыя Міжземнамор'я і берагоў Чорнага мора | 750–550 | Кіклічныя паэмы |
| Барацьба за пісаныя законы ў Старажытнай Грэцыі. Тыранія ў Карынфе і іншых гарадах | 650–500 | Законы Салона ў Афінах (524 г.) |
| Пелапанэскі саюз | каля 550 г. | Філасофія ў Мілетах. Байкі Эзопа. |
| | каля 550–500 | Піфагор. Арфічныя вучэнні. Пачатак трагедыі. |
| Падзенне тыраніі ў Афінах | каля 510 | |
| | каля 500 | Геракліт Эфескі. Лагограф Гекатэй. Пачатак сатыраўскай драмы. |
| Грэка-персідскія войны (Марафон, Фермапілы, Саламін, Платэі, Афінскі марскі саюз) | 500–449 | Трагедыі Эсхіла. Пачатак драматычнай дзейнасці Сафокла і Еўрыпіда. |

| | | |
|---|---|---|
| Першая вайна паміж Афінамі і Спартай | каля 460–430 | Дэмакратычныя рэформы ў Афінах |
| Пелапанэская вайна | 431–400 | Сафісты Горгій і Пратагор. Гутаркі Сакрата. Гісторык Фукідыд. Пакаранне Сакрата смерцю (399 г.), Сакратычныя школы. Філасоф Дэмакрыт. Медыцынскія трактаты Гіпакрата. Аратары Андакід і Лісій. |
| Карынфская вайна. Праца Платона ў Акадэміі (387–347 гг.) Рытарычная школа Ісакрата. Гісторык Ксенафонт. | каля 390–360 | |
| Узвышэнне (панаванне) Македоніі. Бітва пры Херанее (338 г). Аратары македонскай партыі – бліскучы Эсхін і з'едлівы Дэмад. Лепшыя аратары антымакедонскай партыі – рэзкі Лікург і тонкі Гіперыд, на чале з вялікім аратарам Грэцыі – Дэмасфенам. Прамовы Дэмасфена. | каля 360–340 | |
| Заваёвы Аляксандра Македонскага ў краінах Блізкага Усходу. Заснаванне Александрыі (331 г.). | 336–323 | Праца Арыстоцеля ў Лікеі |
| | 322 | Гібель Дэмасфена |
| Заснаванне эпікурэйскай стаічнай і скептычнай філасофскіх школ. Геаметрыя Еўкліда. | 323–281 | |
| | 300 | Пачатак фарміравання элінiстычнай культуры і літаратуры |

| | | |
|---|---|---|
| Заснаванне і дзейнасць Александрыйскай бібліятэкі. Матэматык Архімед. | каля 280–220 | Літаратурная дзейнасць Калімаха і Феакрыта. Міміямбы Герада. Азіанізм і атыцызм у рыторыцы. |
| Рым заваёўвае Грэцыю, якая ператвараецца ў рымскую правінцыю Ахая | 146 | |
| Дынастыя Антонінаў (96–192) | I ст. н.э. | «Грэчаскае Адраджэнне». Рытар Дзіон Хрысастом. Плутарх «Параўнальныя жыццяпісы». Другая сафістыка. |
| | II–IV стст. н.э. | Грэчаскі любоўна-авантурны раман. Харытон, Лонг, Геліядор. |
| Хрысціянская імперыя | 313 г.н.э. | |
| Эдыкт аб верацярпімасці | 325 г. н.э. | |
| **Старажытны Рым** | | |
| Заснаванне Рыма | 753 | |
| | 606–500 | Пачатак лацінскай пісьменнасці |
| | 451–450 | Законы 12 табліц |
| Першая Пунічная вайна | 264–241 | |
| Другая Пунічная вайна | 218–201 | |
| Трэцяя Пунічная вайна | 149–146 | |
| Трыбунаты Тыберыя Гракха і Гая Гракха | 134–122 | |
| Югурцінская вайна | 111–105, 90–80 | |
| Паўстанне Спартака | 73–71 | |
| | 70–52 | Палітычныя прамовы Цыцэрона |
| Цыцэрон – консул. Змовы Сергія Каціліны | 63 | Прамовы Цыцэрона супраць Каціліны |
| Гальскія войны | 58–52 | Запіскі Цэзара пра Гальскую вайну |

| | | |
|---|---|---|
| Падзенне Рымскай імперыі | 476 | |
| | 55 | Філасофская паэма Лукрэцыя «Аб прыродзе рэчаў» |
| Дыктатура Цэзара | 46 | |
| Забойства Цэзара | 44 | Філасофскія трактаты Цыцэрона |
| Забойства Цыцэрона | 43 | |
| | 42–30 | «Буколікі» і «Георгікі» Вергілія |
| Эпоха Актавіяна Аўгуста | 30 г. да н.э. –14 г. н.э. | «Залаты век» рымскай літаратуры. Росквіт паэзіі (Вергілій, Гарацый, Авідзій, Цібул, Праперцый) |
| | 29–19 | Праца Вергілія над «Энеідай» |
| | 4–65 (тут і далей указваюцца гады нашай эры) | Трактаты і трагедыі Сенэкі. Гібель Сенэкі (65) |
| | 14–68 | Літаратура і культура «сярэбранага веку» |
| | 35–100 | Квінціліян Марк Фабій. Проза і рыторыка |
| Час праўлення Марка Аўрэлія | 161–180 | |
| Крызіс Рымскай імперыі | 235–284 | |
| Нікейскі сабор. Хрысціянсва – дзяржаўная рэлігія Рымскай імперыі | 325 | |
| Падзел рымскай імперыі на Заходнюю і Усходнюю (Візантыя) | 395 | |

# ЗМЕСТ

Навукова-папулярнае выданне

*Лебядзевіч Дзмітрый Мікалаевіч*

# РЫТОРЫКА
# АД АНТЫЧНАСЦІ ДА СЯРЭДНЯВЕЧЧА

*слоўнік-даведнік тэрмінаў, назваў і персаналій*

Верстка: *В. Санкоўскай*

Падпісана да друку 14.11.17
Фармат 60x84/16
Ум.друк.арк. 5,1. Ул.выд.арк. 3,2
Папера афсетная. Друк лічбавы
Наклад 90 ас. Замова 14/28

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЮрСаПрынт»
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў № 1/388 ад 01.07.2014 г.

вул. Карла Маркса,11, 230015, г. Гродна
+375 152 7718 20
+375 295 87 84 11